ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 51 (2297) 17 снежня 1992 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 50 кап. (па падпісцы — 8 кап.).

## *ДА 180-годдзя БІТВЫ НА БЯРЭЗІНЕ*





6 снежня ў Студзянцы, вёсцы пад Барысавам, гулялі ў вайну. Яна нагадвала пра тую, далёкую вайну 1812 года, бадай, толькі формай і колерам мундзіраў, старымі гарматамі, мушкетамі ды шаблямі. Натоўп глядзеў, як чмыхалі агнём пушкі, насілася па полі конніца, падалі «працятыя» штыком салдаты. Было цікава і захапляюча. І наўрад ці хто тады падумаў, што вайна 1812 года была адной з самых разбуральных і трагічных для нашага народа. Нашэсце Напалеона не толькі цешыла вызвольныя амбіцыі шляхты і буйных палітыкаў таго часу, якія спадзяваліся з дапамогай Банапарта аднавіць Вялікае Княства Літоўскае, але легла невымерным цяжарам і горам на плечы простага люду.

180-годдзе вайны з Напалеонам сёлета адзначалася гарачай палемікай у беларускім друку. Чым былі тыя падзеі для беларусаў: агрэсіяй французаў ці надзеяй на вызваленне ад Расіі! Гэта імкнуцца вызначыць цяпер гісторыкі і публіцысты.

Мерапрыемствы на Былёўскім полі пад Барысавам не насілі рэспубліканскага маштабу, але тым не меней набылі міжнародны рэзананс. На іх прысутнічалі дэлегацыі з Расіі і Францыі. Быў пасол Францыі ў Рэспубліцы Беларусь Клод Жаліў з жонкай, пасол Расіі ў Мінску Ігар Сапрыкін, міністр замежных спраў Беларусі Пётр Краўчанка, міністр культуры Яўген Вайтовіч. Яны наведалі магілы тых, каго ўраўнавала смерць — французаў, беларусаў, рускіх, палякаў, прысутнічалі на цырымоніі адкрыцця адноўленага помніка палеглым на гэтай зямлі ў 1812 годзе. Помнік гэты быў пастаўлены ў 1912 годзе і разбураны ў 20-х гадах бальшавікамі.

Гледзячы на «баявыя» гульні, пасол Францыі Клод Жаліў заўважыў: «Сёння на Бярэзіне ёсць толькі пераможцы». Каб жа так было заўсёды...

Фота Віктара СТАВЕРА.



# ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ

### ДУМКІ АБ ПЕРШЫМ ГОМЕЛЬСКІМ ФЕСТЫВАЛІ «ДРАМАТЫЧНАЕ МАСТАЦТВА БЕЛАРУСІ»

Пахмурнае перадзім'е ніяк не спрыяла аптымістычнаму настрою. І ўсё ж чатыры апошнія лістападаўскія дні менавіта ў Гомелі прыкметна падбадзёрылі шматлікіх жыхароў горада, прымусілі іх асабліва не браць пад увагу пакутлівыя хаджэнні за хлебам надзённым. І гэта не проста метафара ці нейкая стандартная фраза. Так было на самай справе.

Фестываль-агляд «Драматычнае мастацтва Беларусі» якраз і з'явіўся той падзеяй, якая змяніла прывычны рытм гомельскага жыцця і тым самым паспрыяла, няхай і кароткаму, але ўсё ж такі сапраўднаму адпачыванню.

Горад жыў тэатрам. Па праўдзе сказаць, даўно такога не назіралася: ля тэатральных кас было нямала жадаючых набыць білеты; пра спектаклі гаварылі на працы і нават у грамадскім транспарце; да сцэнічнага мастацтва былі, нарэшце, далучаны дзеці, бо ў праграме агляду значыўся спектакль для дзяцей і з удзелам дзяцей. Нетрадыцыйная культурная падзея з'явілася тым святам для душы, якога так не хапае ў наш змрочны час.

У гэтага тэатральнага фестывалю як быццам не было ніякага дэвіза. А калі б такі патрабаваўся, думаю, лепшы, чым «Вяртанне да вытокаў», цяжка было б і прыдумаць. Сапраўды, агляд быў нацыянальным, беларускім і па форме, і па зместу. Гледачы, а сярод іх было нямала школьнікаў (прычым, не толькі на дзіцячым спектаклі), студэнтаў, моладзі, з відавочнай зацікаўленасцю прыглядаліся да «сцэнічнай беларускасці», цёпла і шчыра рэагавалі на ўсё, што адбывалася на сцэне.

Стварэнне такога натуральнага кантакту паміж сцэнай і залай, зразумела, абумоўлівалася і высокім прафесійным узроўнем артыстаў, і творчымі знаходкамі рэжысёраў, і самой атмасферай свята (арганізатары фестывалю паклапаціліся, напрыклад, аб тым, каб наведвальнікаў перад кожным спектаклем сустракала цудоўная народная ці класічная музыка ў выкананні струннага аркестра ў фае тэатра).

Сама сітуацыя падказвала, што кожны тэатральны калектыў павінен выстаўляць на паказ самую лепшую, арыгінальную, найбольш удалую сваю пастаноўку. На справе, аднак, аказалася, што самае лепшае, на думку асобных тэатральных калектываў, не ёсць гэтакім аб'ектыўна.

Усе тэатры зразумелі галоўную ўмову ўдзелу ў аглядзе (адлюстраванне беларускасці) аднолькава: яны звярнуліся да мінуўшчыны — хто на бытавым узроўні (як, напрыклад, Беларускі акадэмічны тэатр імя Якуба Коласа, Магілёўскі і Гомельскі абласныя драматычныя тэатры), хто на ўзроўні гісторыка-легендарным (Беларускі дзяржаўны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы) ці рэлігійна-філасофскім (тэатр-студыя кінаакцёра кінастудыі «Беларусьфільм»). Адлюстравання беларускага жыцця новага часу, не гаворачы ўжо пра сучаснасць, мы не ўбачылі. Ды гэта і не дзіўна: новае, нядаўняе наша жыццё пераасэнсоўваецца, і са старымі, звыклымі «загатоўкамі» ніхто выступаць не жадае. А вось больш далёкая мінуўшчына — матэрыял папулярны і як быццам бяскрыўдны.

Тэатры прыкметна разышліся ў тым, як паказваць беларускую мінуўшчыну, прычым, гэта датычыцца не толькі бытавой, гісторыка-легендарнай, рэлігійна-філасофскай тэматыкі. Нават адну і тую ж тэму

(Заканчэнне на 7-й стар.).

## *БНР: ДЗЕЛЯ КУЛЬТУРНА-НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ*

**Беларуская Народная Рэспубліка... Тэма гэтая ў апошні час стала аб'ектам пільнай увагі з боку літаратараў і навукоўцаў. Разгараюцца вострыя спрэчкі аб палітычнай і юрыдычнай сутнасці БНР. Напрыклад, Анатоль Сідарэвіч разглядае абвяшчэнне незалежнасці БНР 25 сакавіка 1918 года як акт, скіраваны ў будучыню. Тут ён сапраўды мае рацыю. Задачы, якія даводзілася вырашаць дзеячам БНР, асабліва ў галіне культурна-нацыянальнага Адраджэння, паўстаюць перад намі і цяпер.**

**Трэба адзначыць, што дагэтуль не было спецыяльнага даследавання дзейнасці ўрада БНР па культурна-нацыянальнаму Адраджэнню, а менавіта ў гэтым напрамку беларускія дзеячы дабіліся найбольш важкіх вынікаў.**

**Таму, даследуючы тэму БНР, аўтар у якасці прадмета сваёй увагі абраў дзейнасць урада БНР па культурна-нацыянальнаму Адраджэнню.**

(Першы артыкул В. Мазеца з гэтай серыі «Мы пойдзем сваім шляхам» змешчаны на 6-й стар.).

НА БАРЫКАДЫ

## ПРАФСАЮЗЫ ПАПЯРЭДЖВАЮЦЬ

Савет Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі заявіў, што ўрад без узгаднення з прафсаюзамі, ігнаруючы дзеючае заканадаўства, працягвае палітыку павышэння цэн без уліку становішча працоўных і гэтым раскручвае махавік цэнавага беспарадку.

З такой палітыкай больш нельга мірыцца, лічыць Савет ФПБ. У сувязі з гэтым Савет звярнуўся да працоўных, усіх членаў прафсаюза з адозвай перайсці да рашучых мер пратэсту і абароны ў адпаведнасці з Законам аб вырашэнні калектыўных працоўных спрэчак (канфліктаў).

Савет Федэрацыі прафсаюзаў выстаўляе Вярхоўнаму Савету і ўраду рэспублікі наступныя патрабаванні:

стрымаць рост цэн, не дапускаць іх павышэння на тавары першай неабходнасці;

забяспечыць магчымасць дзейнасці прамысловых прадпрыемстваў, арганізацый, не дапускаць росту беспрацоўя;

забяспечыць павышэнне заработнай платы ў адпаведнасці з дасягнутым узроўнем цэн;

абнародаваць праграму забяспячэння насельніцтва жыллём; не дапускаць прыняцця лакаута ў заканадаўчым плане;

вярнуць працоўным, народу адабраныя ў іх сродкі існавання;

забяспечыць адэкватную індэксацыю грашовых укладаў і аблігацый унутранай пазыкі інфляцыйным працэсам, росту цэн.

Адначасова ФПБ папярэджвае, што, калі гэтыя патрабаванні не будуць прыняты і выканаиы кіраўніцтвам рэспублікі, Савет ФПБ пакідае за сабой права заклікаць працоўных да ўсеагульнай рэспубліканскай забастоўкі.

*«Рынак Злучаных Штатаў, ды ўвогуле Паўночнай Амерыкі, зараз перапоўнены рознымі таварамі, там ёсць усё. Тым не менш мы прыехалі на Беларусь з намерам усталяваць дзелавыя кантакты з прадпрыемствамі металургічнай прамысловасці і шэрагам машынабудаўнічых заводаў. Немалаважнае значэнне мей той факт, што я сам беларус, родам з вёскі Акнышэвічы Светлагорскага раёна. І калі наша кампанія пачала цікавіцца новымі дзелавымі партнёрамі на Усходзе, з дапамогай дэпутата Новіка мне ўдалося пераканаць сваіх кіраўнікоў звярнуць увагу менавіта на беларускія прадпрыемствы. У рэшце рэшт мы дамагліся свайго, і не так даўно разам з галоўным інжынерам фірмы я наведаў Жлобінскі металургічны камбінат, Магілёўскі машынабудаўнічы завод, мінскі «Ударнік» і жодзінскі «БелАЗ». Шчыра кажучы, мы вачам сваім не паверылі, што на гэтых прадпрыемствах такі высокі ўзровень тэхналогіі, нават у Амерыцы падобнае абсталяванне сустрэнеш далёка не на ўсіх заводах. Вельмі спадабаліся нашаму галоўнаму інжынеру машыны для дарожнага будаўніцтва вытворчасці магілёўскага завода і, вядома ж, магутныя «БелАЗы». Што датычыць апошніх, то, відавочна, у хуткім часе мы заключым кантракт з жодзінцамі на набыццё першай партыі «БелАЗаў». А ў далейшым, я спадзяюся, беларускія «валаты» змогуць трывала замацавацца на амерыканскім рынку. Хоць зрабіць гэта будзе нялёгка, бо канкурэнцыя там вельмі вялікая. Праўда, цэны на беларускія грузавікі значна ніжэйшыя, чым, скажам, на аналагічныя японскія машыны. Мяркую, што калі «БелАЗы» не ўступяць ім у якасці, то адразу ж урасце і попыт».*

*(З гутаркі Янкі ХАНЕНКІ, амерыканскага беларуса з Клілэнда, з карэспандэнтам «Народнай газеты»).*

НА ПАЛІТЫЧНЫМ НЕБАСХІЛЕ

## ЯШЧЭ АДНА ПАРТЫЯ

«Дзяржаўныя і грамадскія інстытуты знаходзяцца ў стане глыбокага крызісу. Развал эканомікі вядзе да інфляцыі, карупцыі і збяднення народа. Безуладдзе ўладных структур яшчэ больш пагаршае сацыяльна-эканамічнае становішча ў рэспубліцы. Разбурыўшы ранейшыя ідэалагічныя каштоўнасці, сілы, што прыйшлі да ўлады, не змаглі зарыентаваць грамадства на новыя, што прывяло да крызісу маральнага. Становішча яшчэ больш пагаршаецца з-за палітычнай барацьбы шматлікіх партый, грамадскіх рухаў і груповак, многія з якіх інтарэсы народа падмянілі ўладалюбівымі інтарэсамі».

З гэтага пачынаецца зварот да сугрмадзян аргкамітэта па стварэнню яшчэ адной партыі ў Беларусі, якая, відаць, таксама кінецца ў вір палітычнай барацьбы, — Партыі сацыяльнай справядлівасці. Падпісалі зварот народныя дэпутаты рэспублікі А. Нятылькін, В. Іваноў, Н. Шарко і іншыя члены аргкамітэта.

Праграмныя накірункі новай палітычнай арганізацыі: планавая эканоміка з элементамі вольнага рынку; дзяржаўная, калектыўная і прыватная ўласнасць на зямлю; дзяржаўнае фінансаванне аховы здароўя, адукацыі, навукі і культуры, грамадскіх арганізацый інвалідаў.

Дэвіз ПСС: «Свабодны чалавек — у свабоднай дзяржаве».

САЦЫЯЛЬНЫ АСПЕКТ



З 1 снежня ўсе школьнікі Мінска пачалі атрымліваць бясплатна сняданкі. Такое праяўленне клопату аб яшчэ нядаўна «самым прывілеяваным класе» магло б радаваць. На жаль... Яно сведчыць аб тым, што наш кашалёк змізарнеў настолькі, што многія бацькі не ў стане «выкраіць» з яго свайму дзіцяці нават на маленькую булачку і кампот.

НА ЗДЫМКУ: зноў мнагалюдна стала ў сталовай сярэдняй школы № 4. А яшчэ напярэдадні сюды забягалі перакусіць толькі крыху больш за сто вучняў.

РАШЭННЕ КАМІТЭТА

## ПРЭТЭНДЭНТЫ НА ДЗЯРЖАЎНЫЯ ПРЭМІІ

На пленарным пасяджэнні Камітэта па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, журналістыкі, мастацтва і архітэктуры названы імёны прэтэндэнтаў на высокія ўзнагароды.

У выніку тайнага галасавання Камітэт перадаў на зацвярджэнне ў Вярхоўны Савет і Савет Міністраў спіс прэтэндэнтаў на Дзяржаўныя прэміі Рэспублікі Беларусь. У галіне літаратуры — гэта Сяргей Законнікаў, Алесь Звонак, Васіль Сёмуха, Алесь Жук, Яраслаў Пархута, Мікола Ермаловіч; у галіне журналістыкі — Аляксандр Уліцёнак; у галіне музыкі — Галіна Гарэлава; у галіне тэатра, кіно і тэлебачання — спектакль «Тутэйшыя» па п'есе Янкі Купалы ў пастаноўцы Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага тэатра імя Я. Купалы; у галіне выяўленчага мастацтва — Эдуард Агуновіч і Мікалай Селяшчук.

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## ХАБАРНІКІ НА МЫТНІ

У выніку праверкі, арганізаванай адміністрацыяй мытні «Заходні Буг», выкрыты чатыры мытнікі, якія за валютны хабар дазволілі льготны пропуск дванаццаці легкавых аўтамабіляў на Украіну. Усе чацвёра звольнены, матэрыялы службовага расследавання перададзены ў следчыя органы.

Старшыня Таможнага камітэта рэспублікі Генадзь Шкурдзь пракаменціраваў гэты факт коратка і недвухсэнсава: «Мы скарыстоўваем усе свае магчымасці і паўнамоцтвы для ўмацавання законнасці і спынення злоўжыванняў службовым становішчам у карыслівых мэтах. Ад работнікаў, якія вышэй за ўсё ставяць асабістыя інтарэс, будзем пазбаўляцца».

ДЗЕЛЯ ЗБЛІЖЭННЯ

## ПОЛЬСКІ УНІВЕРСІТЭТ

Інтэлектуальна забяспечыць адраджэнне палякаў Беларусі — такая мэта Польскага народнага універсітэта, што адкрыўся ў Мінску. У якасці заснавальнікаў выступілі Польскае навуковае таварыства «Беларусь—Польшча» і Саюз палякаў Беларусі, які, дарэчы, узяў на сябе і ўсе фінансавыя выдаткі.

Як расказаў старшыня Польскага навуковага таварыства Чэслаў Бянькоўскі, на штомесячных сесіях будуць разглядацца пытанні гістарычных узаемаадносін беларусаў і палякаў, культуры мовы і традыцый Польшчы і нашай рэспублікі. Галоўная задача — дабіцца збліжэння пазіцый па вострых і складаных праблемах, наблізіцца да гістарычнай праўды.

ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ

✦ У Мінску Пастановай Вярхоўнага Савета рэспублікі ў новым годзе будзе арганізавана прыватная натарыяльная практыка. Пакуль што гэта эксперымент, які будзе праводзіцца з 1 лютага 1993 года да першага лютага 1994 года.

✦ Падпісана пагадненне, паводле якога курсанты ваенных вучылішчаў Украіны будуць праходзіць навучанне ў Беларусі, а беларускія юнакі — у адпаведных вучылішчах на Украіне. Пагадненне прадугледжвае таксама падрыхтоўку афіцэраў у ваенных акадэміях Беларусі і Украіны.

✦ 6 снежня ў Белавежскай пушчы правялі акцыю пратэсту дэлегацыі камуністычных арганізацый Брэста, Мінска і іншых рэгіёнаў Беларусі. Яна была прымеркавана да гадавіны вядомых пагадненняў, падпісаных у Віскулях С. Шушкевічам, Б. Ельцыным і Л. Краўчуком, якія падвялі рысу пад СССР і заклалі асновы СНД.

✦ Колькасць рэйсаў самалётаў з мінскіх аэрапортаў скарацілася з 40 да 18, а на 1993 год засталася і таго менш — толькі 12. Сярод асноўных прычын — непамерны кошт паліва, а адсюль — і рост кошту авіябілетаў. Яны становяцца даступнымі толькі камерсантам і дзялкам.

✦ Шэсць бронзавых барэльефаў Герояў Савецкага Саюза, ураджэнцаў Рэчыцкага раёна, выкрадзены ў гарадскім парку Перамогі. Стаялі яны на мемарыяльнай алеі Славы ў Рэчыцы. Бронза, нароўні з іншымі каляровымі металамі, цэнер дорага каштуе на чорным рынку.

✦ Каб памыцца ў Пінску ў лазні, трэба аддаць 150 рублёў. Для пенсіянераў былі льготы — яны мелі 50-працэнтную скідку, другую палову кошту білета ў лазню даплачваў гарвыканком. Цяпер у яго няма на гэта грошай. А пенсіянеры, відаць, будуць хадзіць нямытыя.

У НАЦЫЯНАЛЬНЫМ БАНКУ




Нацыянальны банк Рэспублікі Беларусь увёў у абарачэнне новыя разліковыя білеты вартасцю 200 і 500 рублёў (на здымку).

### БНР: ДЗЕЛЯ КУЛЬТУРНА-НАЦЫЯНАЛЬНАГА АДРАДЖЭННЯ

# I. МЫ ПОЙДЗЕМ СВАІМ ШЛЯХАМ

Мова і культура — самыя магутныя фактары нацыянальнага Адраджэння. Яны не толькі з'яўляюцца асновай нацыянальнага адзінства, але і акрэсліваюць ідэалы народа і гартуюць яго волю для іх ажыццяўлення. Сённяшні стан развіцця культуры вельмі падобны на тую сітуацыю, у якой дзейнічалі стваральнікі Беларускай Народнай Рэспублікі. Давайце звернемся да гістарычнага вопыту БНР па культурна-нацыянальнаму Адраджэнню.

Камісія народнай асветы 1-га Усебеларускага кангрэса ў Менску (5—17 снежня 1917 года старога ст.) выказалася за паступовы пераход на беларускую мову як дзяржаўную. Гэты пераход ажыццявіў урад БНР. 12 красавіка 1918 года «Гоман» пісаў: «Народны сакратарыят Беларускай Народнай Рэспублікі прыняў пастанову аб апавяшчэнні беларускай мовы дзяржаўнай і абавязковай мовай рэспублікі... Усе акты, дакументы і перапіска ўрадавых установаў павінна пісацца дзяржаўнай беларускай мовай». У краі, дзе родная мова доўгі час была забаронена для ўжывання, гэтая пастанова мела вялікае значэнне, бо даказвала, што душу народа не знішчыць нават у самых цяжкіх умовах.

Важнае значэнне для далейшага лёсу народа мае выхаванне нацыянальнага пачуцця ў моладзі. У Менску ў 1918 годзе засноўваецца Беларуская вучнёўская грамада на чале з Т. Кіркевічам. З ініцыятывы вучнёўскай грамады ў маі было заснавана новае культурна-асветнае таварыства беларускіх сагайдакаў (байскаўтаў). Яно мела на мэце фізічнае і маральнае выхаванне пад дэвізам: «Няхай жыве незалежная Беларусь!» 10 мая 1918 года была створана студэнцкая арганізацыя «Беларуская студэнцкая райніца», якая выступіла з адозвай: «З абвяшчэннем незалежнай рэспублікі (25 сакавіка 1918 года) Беларусь скінула апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам было накінута на яе маскоўскімі царамі, але не скінута яшчэ нацыянальна-культурнае ярмо, каторае калечыць самую душу нашага народа. Нацыянальнае адраджэнне — гэта вайна культур, каторая звычайна заканчваецца вызваленнем прыдушанай, падняўшай штандар паўстання. У гэтым змаганні патрэбны не салдаты, а інтэлект і духоўная сіла. Тут патрэбны творцы культуры, армія інтэлігенцыі, пранятая святым жаданнем культурнага росквіту для свайго народу. Патрэбны інтэлігентныя людзі і разумнае адданне сваіх сіл і здольнасці дзеля адбудавання новае лепшае долі свае Айчыны». Задачу выхавання такіх інтэлігентных людзей і ставіла перад сабой «Беларуская студэнцкая райніца».

Вельмі важнае значэнне ў культурна-нацыянальным жыцці мела адраджэнне беларускага школьніцтва. «Культурнае будаўніцтва, — пісала «Вольная Беларусь», — трэба пачынаць з фундамента, а гэтым фундаментам з'яўляецца народная школа». Трэба адзначыць, што пры царскай уладзе ў Беларусі не было адкрыта ніводнае нацыянальнае школы. Адраджэнне беларускае школы пачалося ў гады 1-й сусветнай вайны на тэрыторыі, занятай нямецкімі войскамі, пасля загаду галоўнакамандуючага нямецкім фронтам фельдмаршала фон Гіндэнбурга ад 16 студзеня 1916 года. У загадзе было падкрэслена, што беларуская мова з'яўляецца раўнапраўнай з іншымі мовамі ў краі: літоўскай, расейскай, польскай. Акрамя таго, на беларускай мове друкаваліся пры немцах пашпарты, адозвы, падтрымліваліся беларускія школы і школьныя выдавецтвы. Так, у 1918 годзе пад нямецкай акупацыяй працавала больш за 350 беларускіх пачатковых школ, з якіх каля 20 было адкрыта пад кіраўніцтвам урада БНР у Менску. 1 красавіка 1918 года Народным сакратарыятам асветы БНР былі адчынены курсы беларусазнаўства, на якіх лекцыі чыталі: па геаграфіі Беларусі — Аркадзь Смоліч, па гісторыі — Язэп Варонка, па беларускай мове — прафесар Масоніюс і Язэп Лёсік, па беларускай літаратуры — Тамаш Грыб.

Падрыхтоўкай настаўнікаў для беларускіх школ займалася настаўніцкая семінарыя ў Свіслачы Ваўкавыскага павета, з першага верасня 1918 года былі адкрыты 9-месячныя настаўніцкія курсы. Алесь Гарун у чэрвені 1918 года пісаў: «Ёсць адна галіна дзяржаўна-грамадскага жыцця, якая ў цэласці і заўсёды павінна знаходзіцца ў беларускіх руках. Гэта прасвета. Прасвета можа быць... наймацнейшым з спосабаў палітыкі». Урад Беларускай Народнай Рэспублікі вельмі добра разумеў гэта. Газета «Гоман» у лістападзе 1918 года адзначала: «Уся асвета ў цэнтральнай Беларусі (Міншчына, Віцебшчына і частка Віленшчыны) цяпер у беларускіх руках: асветай кіруе калегія, складзеная з прафесара Я. Карскага, прыват-дацэнта доктара Вацлава Іваноўскага і кандыдата філалогіі Пецярбургскага ўніверсітэта Браніслава Тарашкевіча. Пад загадам Я. Карскага — усе сярэднія школы, В. Іваноўскага — тэхнічныя, агранамічныя і каморніцкія школы, Б. Тарашкевіча — усе народныя пачатковыя школы». У Менску ў кастрычніку 1918 года быў зацверджаны «Беларускі вучыцельскі саюз» пад кіраўніцтвам Сымона Рак-Міхайлоўскага.

Народны сакратарыят БНР арганізоўваў збор грошай на карысць беларускіх культурных арганізацый. Напрыклад, 7-га красавіка было сабрана 1 032 рублі 31 капейка. Фінансавую дапамогу справе народнай асветы аказвалі земскія ўстановы. Так, у маі 1918 года губернскі земскі сход па ініцыятыве настаўнікаў і дзякуючы падтрымцы левага крыла гласных зрабіў асігноўку на адкрыццё краёвага ўніверсітэта — 60 тысяч рублёў, школ для дарослых — 200 тысяч рублёў, сярэдняй політэхнічнай школы — 45 тысяч рублёў; на пераробку ніжэйшай сельскагаспадарчай школы ў сярэднюю — 58 тысяч рублёў. Было адпушчана 3 тысячы рублёў настаўніцкаму хаўрусу, 160 тысяч рублёў — на народныя чытальні. Ксяндзы Астрамовіч і Насовіч асігнавалі на адкрыццё беларускіх народных школ на Магілёўшчыне, падтрымку справы культурнага Адраджэння рабілі Фёдар Вернікоўскі, княгіня Магдалена Радзівіл, якая выдзеліла грошы на адкрыццё каталіцкай духоўнай семінарыі ў Менску. Па ініцыятыве Усціна Мурашкі былі адкрыты 4 беларускія пачатковыя школы ў Ігуменскім (Чэрвеньскім) павеце.

Адбывалася развіццё сярэдняй і вышэйшай школы. Дзейнічалі гімназіі ў Слуцку і Будславе, на ўтрыманне якой Народны сакратарыят асігнаваў у 1918 годзе 20 000 рублёў. 22 красавіка 1918 года прафесарам Жураўлёвым у Менску была адчынена Вышэйшая музычная школа, якая 1 чэрвеня была пераўтворана ў першую Беларускую ўрадавую кансерваторыю. З першага кастрычніка 1918 года ў Менску пачала дзейнічаць Каталіцкая духоўная семінарыя, у якой выкладалася беларуская мова, літаратура і гісторыя. 28 красавіка 1918 года Народны сакратарыят БНР стварыў падрыхтоўчую камісію на чале з прафесарам М. Доўнар-Запольскім для адкрыцця Беларускага дзяржаўнага універсітэта, а 24 верасня ў кватэры Доўнар-Запольскага пры ўдзеле акадэміка Я. Карскага, прафесара К. Сталярова і Язэпа Варонкі аб уладжанні ўніверсітэта адбылася нарада, на якой свой праект выказаў Карскі.

Развівалася таксама і выдавецкая дзейнасць. Пры Народным сакратарыяце асветы было створана «Бюро па ўкладанню і перакладах падручнікаў на беларускую мову», якое ў 1918 годзе падрыхтавала да друку 16 школьных падручнікаў. Усяго ў 1918 годзе, па нашых падліках, працавала 11 выдавецтваў, якія выпусцілі 35 кніг.

Немалаважнае значэнне меў таксама перыядычны друк, дзе адлюстроўваліся найважнейшыя падзеі грамадскага жыцця, друкаваліся мастацкія творы Ф. Багушэвіча, Я. Купалы, Я. Коласа, К. Каганца, А. Гаруна і Ядвігіна Ш., вострая публіцыстыка Я. Лёсіка, Антона Луцкевіча, у 1918 годзе ў БНР выходзіла 6 газет і 3 часопісы.

Важнае месца ў культурна-нацыянальным Адраджэнні займае тэатр. Беларускі тэатр быў арганізаваны ў 1916 годзе ў Вільні Францішкам Аляхновічам. У 1917 годзе ў Менску было створана Першае таварыства беларускай драмы і камедыі. 1 красавіка адбыўся беларускі спектакль «Паўлінка». 19 мая 1918 года быў адкрыты Беларускі народны Дом імя М. Багдановіча, які стаў цэнтрам культурнага жыцця беларусаў у Менску. У гэты ж дзень Таварыства драмы і камедыі было рэарганізавана ў Беларускі дзяржаўны тэатр БНР. Артысты тэатра ставілі п'есы не толькі ў Менску, але і выязджалі на гастролі. Так, з 31 жніўня па 2 верасня гастролі тэатра адбываліся ў мястэчку Ракаў.

З ініцыятывы Старшыні Народнага сакратарыята Язэпа Варонкі мастак С. Валянсевіч маляваў галерэю партрэтаў выдатных беларускіх пісьменнікаў і вучоных. Ствараліся партрэты Францішка Скарыны, Янкі Лучыны, Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча, Францішка Багушэвіча, Максіма Багдановіча, Янкі Купалы і Якуба Коласа. Дарэчы, гэта была ўжо другая такая галерэя. Першая загінула падчас эвакуацыі ў 1915 годзе. С. Валянсевіч сумесна з фотамастаком К. Лукашэвічам (абодва яны з'яўляліся мастацкімі афарміцелямі часопіса «Варта») рыхтавалі ў малюнках і фатаграфіях мастацкі альбом беларускага нацыянальнага руху за 1917—1918 гады пад назвай «Беларуская доля». Акрамя таго, Язэп Варонка рыхтаваў да выпуску «Белую кнігу Беларусі», у якой асвятляліся асноўныя моманты гісторыі беларускага нацыянальнага руху за 1917—1918 гады.

16 жніўня 1918 года быў зацверджаны статут культурна-асветнага гуртка «Бацькаўшчына», які меў мэтай распаўсюджванне выданняў, што асвятлялі і папулярызавалі беларускае Адраджэнне ва ўсіх яго галінах. Заснавальнікамі гуртка былі: Язэп Варонка, Кастусь Езавітаў, Пётр Крэчэўскі, Яўген Бялевіч і К. Цвірка-Гадыцкі.

24 жніўня 1918 года з ініцыятывы I. Герцыка, прафесара кансерваторыі Жураўлёва, Г. Лебедзева і мастака Полазава было заснавана «Мінскае таварыства навукі, літаратуры і мастацтва». Гэтае таварыства ставіла мэтай вывучэнне і распаўсюджванне культурнай спадчыны горада Менска і Менскай вобласці.

Як ужо адзначалася вышэй, нямецкія акупацыйныя ўлады не перашкаджалі справе культурна-нацыянальнага адраджэння. Так, 21 чэрвеня 1918 года паміж старшынёй Народнага сакратарыята Язэпам Варонкам і начальнікам штаба нямецкай X арміі фон Штапфам адбылася сустрэча, дзе начальнік штаба адзначыў, што «асаблівая ўвага будзе звернута ў бліжэйшыя дні на шырокую культурна-асветную работу ў краі». Немцы абяцалі садзейнічаць збору на Беларусь адусюль беларускіх вучоных, прафесараў, настаўнікаў, а таксама дапамагаць у арганізацыі выставак беларускай культуры. У канцы размовы начальнік штаба сказаў, што «яго асабіста лёс Беларусі і яе культуры вельмі цікавіць». У маі-чэрвені 1918 года ў Вільні праводзілася выстаўка беларускай культуры. Ініцыятарамі правядзення выстаўкі выступілі беларусазнаўца доктар Энке і публіцыст Брамэр, якія ў пачатку красавіка прыехалі ў Менск з мэтай сабраць усе матэрыялы для гэтага. У арганізацыі і правядзенні выстаўкі актыўны ўдзел прыняў Іван Луцкевіч. У канцы мая з Менска на выстаўку у Вільню выехаў Рамуальд Зямкевіч з цікавымі матэрыяламі па гісторыі і этнаграфіі. На вялікі жаль, з прыходам бальшавікоў у снежні 1918 года выдатная калекцыя Зямкевіча была імі амаль цалкам знішчана.

Той факт, што нямецкія ўлады спрыялі справе беларускага Адраджэння, абудзіў сярод беларускіх дзеячаў надзею на прызнанне поўнай незалежнасці БНР. Даволі цікавы артыкул наконт выбару саюзнікаў у справе Адраджэння быў надрукаваны ў 39 нумары газеты «Беларускі шлях». «Нам трэба адважна выступаць у новым паходзе народу, як нацыянальная адзінка, без якой бы сабе ні было апекі мацнейшага славянскага народа. Досыць мы ўжо перакананы ў тым, што злучнасць з якім бы сабе ні было славянскім, культурнейшым за нас народам, — шкадліва для нашага нацыянальнага адраджэння; бо кожны славянскі народ будзе лічыць за абавязак шукаць сваёй, нібыта ўласнасці на Беларусі і паўтарыцца над намі старая гісторыя над «тутэйшымі людзьмі». Мы павінны ісці сваёй уласнай дарогай, а калі можам сабе чакаць матэрыяльнай падмогі ў пачатковай нашай працы ад каго-небудзь, дык толькі ад мацнейшага за нас неславянскага народа. Тут ужо канкурэнцыі сваяцтва не будзе, як было дагэтуль ад палякаў і расійцаў — і мы пойдзем сваім шляхам, маючы на гэта багаты самабытны грунт».

**Валянцін МАЗЕЦ.**

## КАНВЕРСІЯ Ў НАВУЦЫ



**На вырашэнне мірных задач пераарыентавалі свае даследаванні ў галіне аўтаматызаванага картаграфавання вучоныя Інстытута тэхнічнай кібернетыкі АН Рэспублікі Беларусь. У свой час у інстытуце была створана сістэма падрыхтоўкі лічбавых карт для кіравання беспілотным самалётам. Яна ўключала не толькі матэматычныя праграмы, але і ўвесь комплекс неабходнай тэхнікі аж да лазерных сканераў, якія дазваляюць счытваць шырокафарматныя каляровыя карты і хутка ўводзіць іх у памяць камп'ютэра.**

**Прызначаная для палётаў сістэма сёння паспяхова вырашае і зямныя праблемы. Ёй даступны, напрыклад, разлік аптымальнага варыянта новай аўтадарогі. Дапамагае яна аўтаматызаваць праектаванне і кантроль якасці друкаваных плат. Распрацоўка кібернетыкаў ужо выкарыстоўваецца заходнім аэрагеадэзічным прадпрыемствам. Сумесна з цэнтрам «Экамір» вучоныя пачалі рэалізацыю рэспубліканскай экалагічнай праграмы дыстанцыйнага зандзіравання зямной паверхні, што дазволіць сабраць дакладную інфармацыю аб стане прыроднага асяроддзя.**

**Яшчэ больш прыкметным можа быць эфект ад выкарыстання сістэмы ў лясной і сельскай гаспадарцы. Камп'ютэр дапаможа весці кантроль за станам лясоў і прадукцыйнасцю лесааднаўленчых работ, падкажа, у якім стане знаходзяцца пасевы, дзе трэба пачынаць барацьбу са шкоднікамі і хваробамі раслін і г. д.**

**Праца беларускіх вучоных высока ацэнена ў нашай краіне і за мяжой. Распрацоўка кібернетыкаў уваходзіць у праграму «Інфарматыка» — адну з прыярытэтных у рэспубліцы. Не маючы падобнага цэнтра, працягвае фінансаваць даследаванні Расія. З калегамі з Аўстрыі, Францыі, Італіі, Швецыі, Галандыі і Славеніі беларускія вучоныя рыхтуюць сумесны праект па камп'ютэрнаму аналізу адлюстраванняў і разлічваюць атрымаць яшчэ і фінансаванне з бюджэту Еўрапейскай Эканамічнай Садружнасці.**

**НА ЗДЫМКУ: канструктар Т. ПЫСЬКО, намеснік начальніка аддзела распрацоўкі картаграфічных сістэм і комплексаў А. ЮХНЕВІЧ, загадчык сектара М. СТРЫГАН і галоўны канструктар М. ХВАЛЬ за работай.**

**Фота А. ТАЛОЧКІ.**

## ВЫДАННІ «ГОЛАСУ РАДЗІМЫ»

Уладзіслаў СЫРАКОМЛЯ

**МІНСК**



**«Што ведае сённяшні жыхар Мінска пра свой горад, пра гісторыю роднага места, яго архітэктуру і быт! Ці зможа ўявіць, якою была сталіца хоць бы сотню гадоў назад, не кажучы ўжо пра больш далёкі час! Адказ на гэтыя пытанні, хутчэй за ўсё, маласуцяшальны. Тым болей цікавым і дасведчаным правадніком па старым Мінску здаецца нам сёння Людвік Кандратовіч (Уладзіслаў Сыракомля)».**

**Не мог не прывесці тут аж цэлы абзац з уступнага слова перакладчыцы кнігі Уладзіслава Сыракомлі «Мінск» пісьменніцы Хрысціны Лялько. Не мог таму, што менавіта гэтыя думкі прыходзяць да галавы, гэтыя пытанні паўстаюць у падсвядомасці, калі дачытаеш гісторыка-краязнаўчы нарыс знакамітага аўтара і нашага слыннага земляка. Сапраўды, наколькі бяднейшымі былі б нашы веды пра Мінск, каб не было гэтай жывой, цікавай і захапляючай кнігі.**

**І ў сувязі з гэтым яшчэ адна неадчэпная думка, якая абавязкова будзе суправаджаць чытача Сыракомлевага «Мінска»: умелі ж пісаць нашы папярэднікі! Сухая статыстыка, мноства фактаў — ад дробязных, заўважаных мімаходзь да агульнавядомых, пачэрпнутых з летапісаў і хронік, — вядомыя постаці таго часу і люд паспаліты — дзіўна хораша тчэцца пад пяром аўтара гістарычнае палатно, нараджаюцца вобразы, сітуацыі, малюнкі. З такім дасведчаным правадніком можна без стомы хадзіць вуліцамі і плошчамі старога Мінска, якога сёння, на жаль, няма, уяўляць сабе эпоху і тыя пакаленні мінчан, якія любілі, будавалі і абаранялі свой горад.**

**Колькі разоў нішчаны войнамі і эпідэміямі, наш горад на слаўтай Нямізе ўсё ж такі не быў канчаткова зруйнаваны, не знік з твару зямлі, дастаўся нам, сённяшнім яго жыхарам, у спадчыну. Можа таму, што моцная сімпатыя і нашых продкаў, і нас да гэтага места! Можа ў гэтым і феномен Мінска, які з колькіх ацалелых па апошняй вайне вуліц, з суцэльных руін і зямлянак зноў адрадзіўся і стаў амаль што мегаполісам.**

**Цяпер, калі нас адольвае прага мінуўшчыны, падарожжа па Мінску сярэдзіны XIX стагоддзя — не проста цікавае баўленне часу, але праца розуму. Мы пазнаём сваю гісторыю, характар народа, яго звычкі і традыцыі і можам ганарыцца тым, што мы — беларусы. У нас ёсць свае карані. Мы яшчэ раз пераконваемся, якой фальшывай была гісторыя, навязаная нам савецкай «навукай», паводле якой да рэвалюцыі 1917 года ў нас нічога не было, акрамя галечы, цемры, невуцтва і вечнай нядолі.**

**Калі чытаць нарыс Уладзіслава Сыракомлі пра Мінск удумліва, то нельга не заўважыць, што многія сённяшнія падзеі ў тым ці іншым варыянце мелі месца і стагоддзе, і два назад. Становіцца зразумелым, напрыклад, адкуль ідуць нашы сённяшнія міжканфесіянальныя канфлікты. Ды ці мала яшчэ аналогій напрошваецца!**

**Нарыс Уладзіслава Сыракомлі «Мінск», выдадзены ў нашай серыі «Бібліятэчка газеты «Голас Радзімы», быў напісаны на польскай мове. На беларускай ён друкуецца ўпершыню. І тут нельга не адзначыць руплівую працу над перакладам Хрысціны Лялько, якая вельмі асцярожна, каб не пашкодзіць моўнастылявую ткань аповяду, з вялікай адказнасцю здолела перадаць думкі і пачуцці Уладзіслава Сыракомлі, з якімі ён углядаўся ў сучасны яму Мінск, лёгкую і свабодную плынь яго апісання.**

**В. КРАСЛАЎСКІ.**

---

**З МАТЭРЫЯЛАЎ XXI З'ЕЗДА ФЕДЭРАЦЫІ РУСКІХ КАНАДЦАЎ**

## ЧЭРПАЦЬ СІЛЫ Ў СУВЯЗЯХ З РАДЗІМАЙ

З 3 па 5 кастрычніка гэтага года ў г. Таронта праходзіў XXI з'езд Федэрацыі рускіх канадцаў (ФРК). (Просім прабачэння ў чытача за запозненую публікацыю матэрыялаў аб яго правядзенні. Выклікана яна тым, што іншай крыніцы інфармацыі аб з'ездзе, акрамя газеты «Вестник», якая з'яўляецца друкаваным органам ФРК, у нас няма. А даходзіць гэтае выданне да нас з вялікай цяжкасцю, зрэдзьчасу. І атрымліваем некалькі нумароў запар. Апошнія, што тычаць з'езда, ляглі на рэдакцыйны стол толькі што).

Лічым неабходным зрабіць наступнае тлумачэнне: нягледзячы на сваю назву, 3/4 з усяго складу сяброў федэрацыі складаюць выхадцы з Заходняй Беларусі. Нанава абраны на гэтым з'ездзе старшыня ФРК Антон Кульчын і віцэ-старшыня Аляксандра Юроўская таксама паходзяць з беларускіх краёў. Дарэчы, гаворачы ў сваім справаздачным выступе аб гістарычным мінулым арганізацыі, А. Кульчын прыгадаў, што на пачатку 40-х гадоў колькасць членаў ФРК, уключаючы іх сем'і, дасягала 20 тысяч чалавек, а яе аддзелаў, размешчаных на тэрыторыі ўсёй Канады,— 58.

Цяперашнім часам кантынгент беларусаў краіны кляновага ліста, што бяруць удзел у рабоце федэрацыі, значна зменшыўся. Аднак, на думку старшыні федэрацыі, яна не можа знікнуць. «Яшчэ адзін вынік тых перамен, якія маюць месца на Радзіме,— заўважыў А. Кульчын,— гэта істотнае павелічэнне ліку імігрантаў, якія прыязджаюць у Канаду з былога Савецкага Саюза ў пасляваенныя гады. Гэта самая вялікая колькасць з часоў другой сусветнай вайны. Мы павінны вітаць гэтых людзей у нашых арганізацыях. Новыя імігранты змогуць ажывіць федэрацыю».

Сёння ж ФРК, па вызначэнню А. Юроўскай, «з'яўляецца культурна-асветніцкай з гуманітарным ухілам арганізацыяй. У нас ёсць свае ідэі, свае напрамкі, свае духоўныя каштоўнасці, якімі мы кіруемся на працягу 62 гадоў».

Некалькі слоў аб ідэях. Распад Савецкага Саюза, які многія працоўныя імігранты-беларусы старэйшага пакалення на працягу ўсяго свайго жыцця разглядалі як «вялікую Радзіму», стварэнне незалежных дзяржаў-рэспублік былі ўспрыняты імі неадназначна. На гэтым моманце спыніўся ў дакладзе А. Кульчын. Некаторым канадскім суайчыннікам, сказаў ён, цяжка зразумець рэвалюцыйныя перамены, што адбыліся ў СССР, нестабільнасць сітуацыі. Ёсць людзі, хто з настальгіяй глядзіць у мінулае і шкадуе, што ўсё не так, як было раней, альбо як яны сабе гэта ўяўлялі. Аднак свет будзе змяняцца незалежна ад чыйгосьці жадання, і трэба прымаць гэтыя змены. У савецкі перыяд, падкрэсліў прамоўца, члены федэрацыі разглядалі Саюз, як адзінае цэлае. Таму, калі Арменія пацярпела ад землетрасення, ФРК сабрала больш 60 тысяч долараў на дапамогу.

А боль Бацькаўшчыны — Чарнобыль — нашы суродзічы з Канады ўспрынялі, як свой. У лістападзе 1991 года Галоўнае праўленне ФРК накіравала клініцы НДІ радыяцыйнай медыцыны, што ў Аксакаўшчыне, вялікую партыю медыкаментаў і камп'ютэр на суму 46 688 долараў. Кампанія Новафарм, у якой былі закуплены гэтыя лекі, у сваю чаргу ахвяравала дадатковую іх колькасць коштам 37 000 долараў. У сёлетнім чэрвені федэрацыя закупіла і перадала на Беларусь пры пасрэдніцтве таварыства «Радзіма» чарговую партыю лекаў, тры ЭВМ, якія каштуюць 9 539 долараў, а таксама ахвяраваныя той жа кампаніяй медыцынскія прэпараты (5 509 долараў). Агульны кошт усіх гэтых і іншых даткаў склаў 108 736 долараў.

XXI з'езд Федэрацыі рускіх канадцаў выказаўся за развіццё самых цесных сувязей з Расіяй і Беларуссю. «Менавіта гэтыя рэспублікі з'яўляюцца нашай альбо нашых продкаў Радзімай, і мы чэрпаем у іх сілу нашай культуры. Да таго ж многія з нас маюць асабістыя сувязі ў Расіі і Беларусі праз сваякоў»,— адзначыў А. Кульчын.

**Кастусь ШАЛЯСТОВІЧ.**

---




**Адмысловую каляровую «Вясёлую азбуку», першае выданне, хутка атрымаюць беларускія дашкольнікі і першакласнікі. У гэтым вучэбным дапаможніку — цікавыя, арыгінальныя тэксты і з густам зробленыя малюнкі. Кожны малюнак і тэкст да яго адпавядаюць адной з літар беларускага алфавіта. Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь рэкамендавала выхавальнікам і настаўнікам выкарыстоўваць «Вясёлую азбуку» для навучання дзяцей грамаце. Такое выданне з'явілася на Беларусі ўпершыню. Яно, несумненна, зацікавіць нашых суайчыннікаў далёкага і бліжняга замежжа. Набыць яе не вельмі складана. Для гэтага патрэбна звярнуцца ў рэдакцыю газеты «Голас Радзімы» альбо па тэлефонах у Мінску (8-0172) 335-044 да 18 гадзін, 559-483, 569-470 пасля 19 гадзін.**

**НА ЗДЫМКАХ: фрагменты азбукі.**

## РОДНАЕ СЛОВА ДЛЯ ДАШКОЛЬНІКАЎ І ПЕРШАКЛАСНІКАЎ





## З ГІСТОРЫІ СТАСУНКАЎ ВЯЛІКАГА КНЯСТВА ЛІТОЎСКАГА І ГАСПАДАРСТВА МАЛДАЎСКАГА

# ЗУБР І «ПАГОНЯ»



Дапамога з боку Літвы спазнілася, поспехі палякаў былі мізэрнымі, і хутка аблогу давялося зняць. Са Штэфанам было заключана перамір'е, паводле якога быў вызначаны шлях вяртання польскага войска. Кароль, аднак, абраў карацейшы — праз дрымучы Казмінскі лес. Гэта дало малдаванам фармальныя падставы для парушэння перамір'я. 26 кастрычніка палякі пацярпелі жорсткае паражэнне. Яны ў беспарадку адступілі, а малдаване, якім прыслалі дапамогу Венгрыя і Турцыя, працягвалі праследаванне ўжо на польскай тэрыторыі, разбіўшы рэшткі войска ля мястэчка Лянцэшты. Якраз у гэты час да мяжы падышоў Аляксандр, але сутыкнуўся з рашучай непрыхільнасцю войска ваяваць з Малдовай дзеля польскіх інтарэсаў: «Міласцівы гаспадару наш![1] Куды, твая міласць, ідзеш з намі?» — «Калі б умысл мой кашуля мая, каторая на мне, ведала, я бы і тую зжог», — адказаў Аляксандр. «Калі ж ты, гаспадар наш, нам рады і ўмыслу свайго не паведаеш, мы, воі, не хацім за раку Буг ісці». Аляксандр, вымушаны лічыцца з такім настроем, не аказаў брату значнай дапамогі. Толькі невялікія літоўскія атрады ўдзельнічалі ў кампаніі, хаця «Хроніка Быхаўца» сцвярджае, што атрад на чале з літоўскім маршалкам Станіславам Пятровічам сваю сутычку з малдаванамі выйграў. Паводле ўспамінаў турэцкіх удзельнікаў падзей, было разбіта «рускае» (г. зн. беларускае) войска, якім кіраваў «Рус-бегі» (г. зн. Аляксандр).

Скарыстаўшыся з нагоды, Аляксандр аднавіў збуцьвелы Брацлаўскі замак, назваўшы яго горадам Св. Пятра. Брацлаўскім, вініцкім і звенігарадскім намеснікам быў прызначаны найвышэйшы гетман Кастусь Астрожскі.

У наступным, 1498 годзе, стасункі Малдовы з яе паўночнымі суседзямі не палепшыліся. Па ініцыятыве Штэфана быў арганізаваны напад на Польшчу войскаў сілістрыйскага пашы Малкодж-Аглу. Заходнеўкраінскія землі былі спустошаны, у палон было забрана блізу 100 тысяч чалавек. Пацярпела і літоўская Брацлаўшчына. Абарончыя дзеянні Літвы былі блакіраваны маскоўскай дыпламатыяй[2]. Маскоўскія паслы Рамаданаўскі і Кулешын заявілі Аляксандру: «Если на Стефана воеводу пойдёшь, ино и мы пойдем на тебя». У гэтым жа годзе Іван III, які не збіраўся лішне зацягваць мірную паўзу, заключыў з Малдовай тайны саюз, а ўнук Штэфана Дзмітрый, сын Алёны Валашанкі і Івана Маладога, быў абвешчаны спадкаемцам маскоўскага трону. Штэфан, аднак, не хацеў поўнага аслаблення Літвы і Польшчы — адзіных дзяржаў, якія маглі аказаць рэальную падтрымку ў змаганні з асманамі, і заключыў у 1499 годзе з гэтымі дзяржавамі дагаворы, што прадугледжвалі ўзаемадапамогу супраць Турцыі. Далучыцца да гэтага саюзу запрашалі і Маскву, але пасольства Івана Сапегі і Станіслава Кішкі, якое наведала Маскву ў жніўні 1499 года, вярнулася ні з чым.

Тым часам Масква актыўна рыхтавалася да новай вайны з Літвой. Яна пачалася ў 1500 годзе. Штэфан, нягледзячы на тайныя дамоўленасці з Іванам III, заняў пазіцыю нейтралітэту. У адказ на шматлікія просьбы далучыцца да ваенных дзеянняў ён спасылаўся на ранейшыя прапановы самога маскоўскага вялікага князя: «И ты вспомяни, коли еси своих послов до нас присылал... штобы нам взять мир с великим князем Александром литовским, бо ты с ним мир и докончание взял еси».

14 ліпеня 1500 года Літва пацярпела адчувальнае паражэнне на Ведрашы. Трапіў у палон сам Астрожскі. Шукаючы саюзнікаў, Аляксандр звярнуўся да Штэфана, накіраваўшы ў Сучаву пасольства дзяка Богуша. Зразумела, Штэфан ухіліўся ад такой прапановы, але абяцаў садзейнічаць у заключэнні міру з Масквой. Тэма міру была адной з галоўных на перамовах, якія вялі ў Маскве малдаўскія пасды Пётр, Фёдар Ксаеў, Шандр, Канстантын. Штэфан таксама адмовіўся падтрымаць набег на Літву саюзных Маскве крымскіх татараў і накіраваў да хана Мянглі-Гірэя паслоў, гаворачы: «Князь великий московский тот нам издалёка, а Литовской нам близкой сусед, и ты бы с Литовским мир взял». Нарэшце ў 1503 годзе было заключана 6-гадовае перамір'е.

Ненадзейная, з пункту гледжання Крамля, пазіцыя Малдовы ў вайне і інтрыгі баярскай партыі, незадаволенай уплывам пры двары Алены Валашанкі і яе сына Дзмітрыя, прывялі да іх затачэння ў манастыр у 1502 годзе. Аб гэтым варожым для Штэфана кроку яму паведаміў Аляксандр (з 1501 года яшчэ і кароль Польшчы), разлічваючы замацаваць разрыў небяспечнага для Літвы хаўрусу дзвюх праваслаўных дзяржаў. Гэта, аднак, не прадухіліла вайны Малдовы з Польшчай у 1502—1506 гадах, якая вялася за спрэчную тэрыторыю Пакуцця. Літва ў гэтай вайне не ўдзельнічала. З аднаго боку, Малдова ўнікала сутыкненняў з натуральным саюзнікам Польшчы, а з другога —шляхта Вялікага княства заўсёды вельмі неахвотна далучалася да антымалдаўскіх кампаній, якія праследавалі перадусім польскія інтарэсы.

Вайна за Пакуцце была прыпынена ў 1505 годзе. Мірны дагавор прадугледжваў адмову ўжо новага гаспадара, сына Штэфана Вялікага (памёр 2.07.1504) Багдана III, ад тэрытарыяльных прэтэнзій пры ўмове больш актыўнай абароны Польшчай Малдовы ад Турцыі, зарукай чаго павінны быў стаць шлюб Багдана і Лізаветы, сястры Жыгімонта. Аднак апошні, зрабіўшыся ў 1507 годзе каралём і вялікім князем пасля смерці брата Аляксандра ў жніўні 1506 года, адмовіўся выконваць умовы пагаднення, баючыся, што гэтыя абавязкі ўцягнуць яго ў адкрытае сутыкненне з Асманскай імперыяй. Гэта выклікала новую вайну Малдовы і Польшчы, якая вялася да 1510 года (у 1507—1508 гадах адначасова вялася вайна Літвы з Маскоўскай дзяржавай). Гэтага часу і датычыць падтрымка Малдовай рокашу Глінскага ў 1508 годзе. У выпадку, калі б Глінскі дасягнуў большых поспехаў, у вайну, магчыма, уступіла б і Венгрыя, якая падтрымлівала Малдову ў яе канфлікце з Польшчай. (Перад сваім з'яўленнем у Вялікім княстве ў 1507 годзе Глінскі наведаў Венгрыю).

Стасункі Малдовы, Польшчы і Літвы пачалі паляпшацца ў 1509—1510 гадах у сувязі з узмацненнем крымскай агрэсіі. Асабліва небяспечнымі былі наезды летам—восенню 1510 года, калі асобныя загоны дасягалі нават Вільні. На зваротным шляху яны ўпалі на Малдову. Багдан прасіў у Жыгімонта дапамогі, але не атрымаў яе, а пасольства ў Маскву, таксама з мэтай шукаць абароны ад татараў, не было прапушчана праз Літву.

Восенню 1512 года пачынаецца чарговая вайна паміж Літвой і Масквой, у выніку якой быў страчаны Смаленск. На баку Масквы былі гатовы выступіць Свяшчэнная Рымская імперыя, Данія, Саксонія, Брандэнбург, Лівонскі ордэн. Каб прадухіліць удзел у гэтай кааліцыі Малдовы, Сігізмунд не прапускае яе паслоў у Маскву. У Сучаву быў накіраваны пасол Андрэй Закрэўскі, які нагадаў Багдану пра лёс памерлых у зняволенні ў Маскве сястры і нябожа, запрашаючы выступіць у вайне разам з Літвою. Пасля гістарычнай перамогі пад Оршай 8 верасня 1514 года Багдан спрабаваў схіліць маскоўскі ўрад да падпісання міру з Літвой, за што ўдастоіўся падзякі ад Жыгімонта. Гаспадар Малдовы прапаноўваў Васілію III спыніць братазабойчую вайну і нанесці злучанымі сіламі Масквы, Літвы, Польшчы і Малдовы рашучы ўдар Крымскаму ханству, але гэты праект не мог быць здзейснены ў варунках сталай варожасці паміж Літвой і Расіяй. Вайна працягвалася да 1522 года.

У 1517 годзе Багдан памёр і гаспадаром быў абвешчаны яго 11-гадовы сын Штэфан. Да яго паўналецця краінай кіравала баярская рада на чале з Лукой Арбарэ, які прыхільна ставіўся да Польшчы і Літвы. Пры ягоным актыўным удзеле ў 1518 годзе паміж Штэфанам IV і Жыгімонтам у Вільні быў заключаны дагавор, па зместу аналагічны дагавору 1499 года. Маючы на ўвазе, што вайна з Масквой працягвалася, Літва была зацікаўлена ў бяспецы сваіх паўднёвых межаў. Паводле дагавору, у прыватнасці, Польшча і Малдова абяцалі даць Штэфану і яго брату Пятру прытулак у выпадку страты ўлады, а такая небяспека заўжды існавала ў нестабільнай Малдове. Тут былі шырокія колы баяраў антыягелонскай арыентацыі. Па іх намове Штэфан у 1523 годзе пакараў Арбарэ смерцю, абвінаваціўшы ў дзяржаўнай здрадзе, і пачаў схіляцца да хаўрусу з Васілём III. У адказ Жыгімонт забараніў абмен пасольствамі паміж Малдовай і Масквой. У 1527 годзе Штэфан памірае, але новы гаспадар Пётр Рарэш займае ў дачыненні да Літвы і Польшчы яшчэ больш жорсткую пазіцыю. У 1529 годзе ён узнаўляе ваенна-палітычны саюз з Масквой, і Жыгімонт вымушаны забараніць усе малдаўска-рускія кантакты праз літоўскую тэрыторыю, але яны вяліся цераз Крым. У 1530 годзе Рарэш захапіў Пакуцце, але налета быў разбіты пад Абертынам. Жыгімонт, які вёў вайну адно сіламі Кароны, спрабаваў уцягнуць у яе і Літву. Гэтае пытанне абмяркоўвалася на Віленскім сойме ў 1532 годзе, але шляхта «не призволила» на вайну. Пётр Рарэш між тым спрабаваў нацкаваць на Літву і Польшчу Турцыю і Расію. У 1532 годзе яго пасол Южка прасіў Васіля III, каб той «пожаловал посла к турскому салтану, чтобы ради Василиа Ивановича турскый салтан оборонил его от литовского короля Жидимонта». З такой жа просьбай Рарэш звяртаўся да маскоўскага князя і ў 1533 годзе, але тады Масква прытрымлівалася ўмоў перамір'я з Літвой. Ды ўжо налета выбухнула новая маскоўска-літоўская вайна. У ходзе яе Сучава, Масква, Бахчысарай неаднакратна абменьваліся пасольствамі, узгадняючы свае дзеянні. Мір паміж Літвой і Масквой быў заключаны ў 1537 годзе, на папярэдніх перамовах рускі бок патрабаваў таксама падпісаць мір і з Рарэшам, што польска-літоўскія пасды адмовіліся зрабіць. Польскай дыпламатыі, якая яшчэ ў 1533 годзе заключыла з Турцыяй «вечны мір», паводле якога адмаўлялася ад сеньяральных праў на Малдову, удалося дамагчыся, каб султан адпрэчыў Рарэша ад прастолу.

Дарэчы, у 1535 годзе 5 месяцаў пры двары Рарэша правёў накіраваны чэскім каралём Фердынандам І Іван Перасветаў, вядомы авантурыст беларускага паходжання, які пазней эмігрыраваў у Маскву, дзе зрабіўся ідэолагам крывавага рэжыму Івана Жахлівага. У гэты час і Літва, і Малдова ў свядомасці жыхара Заходняе Еўропы паўставалі як мяжа айкумены, хрысціянскага свету. «Стефана воевода панство всих христьянских земель нашего острова (г. зн. Еўропы) есть ворота», — казаў вялікі князь Аляксандр. Першыя верагодныя картаграфічныя выявы Літвы і Малдовы з'явіліся на мапе Б. Вайноўскага Tabula Sarmatiae ў 1526 годзе. Яна паслужыла прататыпам для больш позніх выданняў Себасцьяна Мюнстэра, якія былі ажыццёўлены ў Вене: Літвы — у 1540 годзе, Малдовы — у 1541 годзе. Безумоўна, існавалі шырокія культурныя сувязі. У 1507—1512 гадах у Валахіі дзейнічала друкарня кірылічнага шрыфту, якая выдала некалькі кніг рэлігійнага зместу. «Трэба падкрэсліць нейкую ўнутраную сувязь дзейнасці Скарыны з развіццём царкоўнаславянскага кнігадрукавання ў Дунайскіх княствах, — піша рускі гісторык І. Б. Грэкаў. — Нельга лічыць выпадковым той факт, што ў залежных ад Турцыі Валахіі і Малдове друкаванне царкоўнаславянскіх кніг пачало інтэнсіўна развівацца ў перыяд параўнаўчай стабілізацыі праваслаўнай царквы ў Вялікім княстве Літоўскім». А ў беларускія летапісы цалкам уключаліся такія творы, як «Аповесць пра Дзешпата, гаспадара валоскага» і «Пра Івана і Богдана, гаспадароў валоскіх».

Практычна ва ўсіх беларускіх крыніцах таго часу мы сустракаем у дачыненні да Малдовы назву «Волахі», «Валошчына», якая часта памылкова атаясамліваецца з Валахіяй, якая, у сваю чаргу, фігуруе часцей за ўсё як «Мултаны» — ад румынскай назвы ўсходняй Валахіі Мунтэнія. Мултаны ж па сугучнасці, наадварот, прымаюць за Малдову. Гэтых памылак не пазбягаюць нават некаторыя энцыклапедычныя выданні. Між тым, абодва словы пакінулі след у беларускай мове. «Валоскім», як вядома, называюць арэх (па-расейску «грэцкі»). «Валах» — сінонім слова «жарабец». (Малдова славілася сваімі коньмі). Такое ж паходжанне і слова «валошка». А вось «мультан» па-беларуску — гэта альбо моцны гатунак турэцкага тытуню, альбо кароткі двухбаковавостры меч.

У другой трэці XVI стагоддзя ўплыў Вялікага княства на малдаўскія справы пакрысе саслабяваў — украінскія землі, юрыдычна застаючыся ў складзе Літвы, фактычна ўсё больш траплялі пад кантроль Польшчы. Таму, напрыклад, калі падчас чарговага набегу татараў у 1541 годзе жыхары памежных раёнаў Малдовы ўзбунтаваліся і, аб'яднаўшыся з казакамі, прайшлі рэйдам па турэцкай тэрыторыі ад Цігіны (Бендэраў) да Белграда, султан накіраваў Жыгімонту скаргу, дзе сумежныя землі княства называліся польскімі. Так што страта Украіны ў 1569 годзе была лагічным фіналам доўгага працэсу.

Пераход Украіны да Польшчы, прынамсі, пазбаўляў Вялікае княства ад небяспекі непасрэднага сутыкнення з Турцыяй і Крымам, ад штогадовых «напамінкаў» мусульманскім драпежнікам. А пагроза з боку Турцыі ўзрастала, асабліва пасля разгрому Венгрыі ў 1526 годзе. Гэтая небяспека і была адной з падстаў для палякаў настойліва прапаноўваць Літве унію, але да пэўнага часу яна згаджалася толькі на абарончы саюз. На Берасцейскім сойме ў 1544 годзе разглядаўся план супольнай абароны. У выпадку, калі галоўны ўдар асманаў будзе нанесены з боку Малдовы, Вялікае княства абяцала дапамагчы Польшчы «ўсёю сілаю», а калі праз Сілезію ці Славакію—выставіць 4 000 наёмнай конніцы.

**Алесь БЕЛЫ.**

---

[1] Міласцівы — гэта не проста ветлівы зварот. Так памяркоўнага і незласлівага Аляксандра называлі нават рускія летапісцы.

[2] Калі не лічыць удалага набегу К. Астрожскага, які захапіў у Малдове шмат палонных.

---

**Заканчэнне. Пачатак у №№ 49, 50.**

## МЕТАМАРФОЗЫ БЕЛАРУСКАГА «ЗАПАДНО-РУССИЗМА»

# ТЭРЫТОРЫЯ ЦІ НАЦЫЯ?

Положение пяти губерний, вошедших в состав Белорусской республики, ничем существенным не отличается от остальных губерний Советской России. Нам нужно классовое самоопределение, но не искусственное национальное...»

Трэцяя. «Да, мы белорусы, но оттого, что мы предпочитаем русский язык в своем общении, мы не станем меньше любить свою родину, свою белорусскую землю, белорусские песни и историю своего народа. Мы **думаем по-русски**, и дети наши с пеленок впитывают русский язык. (Не пустим детей в белорусскую школу. — Ліст за 17-цю подпісамі жыхароў г. Рагачова. «Народная газета» 1992, 9 чэрв.).

Які ж каментар напрошваецца да цытаваных прыкладаў? З іх першыя два даволі паказальныя непрыхаванай імперска-каланіяльнай сутнасцю абодвух рэжымаў на Беларусі — расійска-царскага і бальшавіцка-савецкага. Сутнасць гэтая й праявілася ў аднолькава ліквідатарскім настаўленні да нацыянальнае мовы карэннага насельніцтва. У святле абодвух, праграмных на свой лад дакументаў, не здаюцца арыгінальнымі цытаваныя напачатку філасафічныя довады наконт «добраахвотнасці» беларускага нацыянальна-духоўнага самагубства. Прынамсі рэкамендацыі царскага саноўніка і заўвагі бальшавіцкага камісара з дастатковай адназначнасцю выказваюць механізм тае дзяржаўна-палітычнае машыны на Беларусі, прызначэнне якой перарабляць тубыльцаў з «истинно русских», або «поистине интернациональных» людзей, забяспечыць «канвеерную» вытворчасць масавіднага, нацыянальна скалечанага тыпа, «нутранага турка» (метафара М. Драгаманава), які на сваёй беларускай зямлі стаецца галоўным, нярэдка ваяўнічым апанентам беларушчыны (ліст-пратэст «жителей» з Рагачова). І не толькі апанентам, але і ўз'юшаным далакопам, кім фактычна праявілі сябе «воины-интернационалисты» падчас пагрому на Траецкім прадмесці Менска (20 красавіка 1986) маладых беларускіх патрыётаў —удзельнікаў свята «Гуканне вясны» ды КЭДЭБэшна-міліцэйскае воінства, глумячыся над народным шэсцем на Дзяды 30 кастрычніка 1988 года.

На гэты ж «западно-русский» рахунак можна залічыць мноства іншых, хоць знешне прыстойнейшых фактаў антыбеларускага змагання разгорнутага ў апошні час з газетных палос, тэле-, радыёстудый, універсітэцкіх кафедраў, вайсковых штабоў і г. д.

Метамарфозы «западно-руссизма» выклікаюць паралелі з падобнай з'явай на ўкраінскай глебе, вядомай пад назваю «маларасійства». Украінскі пісьменнік і вучоны Я. Маланюк у аднайменным артыкуле зазначае: маларасійства — гэта не масквафільства ці якое іншае «фільства» (польскафільства, туркафільства і да т. п.), не пазбаўленае рацыі быту як пэўны напрамак ці тактыка ў палітыцы. «Але маларасійства—гэта не палітыка і нават не тактыка, толькі заўсёды апрыёрная і татальная капітуляцыя. Капітуляцыя яшчэ перад боем». Вельмі прынадная заўвага. Яна ставіць ва ўласцівым вымеры любы від нацыянальнага рэнегацтва, тым больш ва ўмовах нацыі прыгнечанай ці духоўна ўшчэмленай, якой па сутнасці покі што застаецца нацыя беларуская — дзе ў паўсядзённым бытаванні на звычайны зварот па-беларуску чынадрал з-за канторскага стала можа самаўпэўнена й беспакаральна прасіпець абразлівае «говорите нормальным языком!»

«Западно-руссизм» і праявіўся на беларускай зямлі як стратэгія паражэнства ў нацыянальна-дзяржаўным і культурным будаўніцтве. Стратэгія, накінутая беларусам імперска-каланіяльным ладам. Нашэсцем, з аднаго боку, «истинно русского человека, великоросса-шовиниста, в сущности подлеца и насильника, каким является типичный русский бюрократ» (Ленин В. И. ПСС, т. 45, с. 257), а з другога — штампаваннем праз адпаведную школьна-універсітэцка-акадэмічную сістэму па мікіта-зноскаваму стандарту «руска-ісцінай тутэйшай, между протчым, інтэлігенцыі» з вытраўленым пачуццём нацыянальнае самапавагі. Што мог гэты альянс духоўнага каланізатарства, змацаваны культам пагарды да беларускага слова, беларускае тоеснасці, зрабіць добратворчага для культуры Скарыны й Купалы, як і для культуры Пушкіна й Дастаеўскага?

Пытанне само па сабе рытарычнае, але спараджае другое, здавён набалелае пытанне, непрадузяты адказ на якое, як ні мулка, а давядзецца шукаць — добра, калі б супольнымі намаганнямі, пры ўзаемаразуменні, і беларусам, і рускім. Менавіта: чым жа ў рэшце рэшт адзначылася на Беларусі руская мова, руская культура ў абліччы многіх сваіх «русскоязычных» носьбітаў-праваднікоў — лесвіцай для ўзвышэння ці пятлёй для задушэння мовы, культуры беларускай? Тым больш, што першыя спробы спакойнага заглыблення над згаданым пытаннем (гл.: Цярашковіч П. Русские на Беларуси: постинтернационалистская рефлексия. Нёман, 1992, № 6) пераконваюць у тым, наколькі ўзважаны, навукова доказны падыход да справы здольны ўзбагаціць, у нечым і ацвярозіць прывычныя, прыпамаджаныя ідэалагічным глянцам уяўленні аб беларуска-расейскіх узаемадачыненнях, будаваных у гісторыі далёка не скрозь на братэрстве і раўнапраўі.

Падышлі, такім чынам, да аднаго з вострых, па-свойму далікатных момантаў разглядаемай праблемы. Менавіта — да «русскоязычного» беларуса як пэўнага нацыянальна й духоўна ўшчэрбнага, падкалечанага тыпа, сумнавядомай антытэзы свядомаму беларусу, беларускаму ладу жыцця на Беларусі. Тып у сацыяльных адносінах дый нацыянальных (страчаем у падобным абліччы рускіх, яўрэяў, палякаў, украінцаў) даволі разнаабліччы, рэпрэзэнтатыўны. Тут і звычайны рабочы «ад станка», што падчас сустрэчы з М. С. Гарбачовым на Мінскім аўтазаводзе (1991) выплеснуў у запісцы прэзідэнту сваё «пралетарскае» раздражненне марнатраўствам дзяржаўных сродкаў на даследаванне нейкае там беларускае літары «а» (была гэта ці не адзіная на свой лад дэманстрацыя «беларускасці» на Беларусі перад высокім госцем з Цэнтра). І тыя рашучыя генералы-штабісты з гарнізона ў Барысаве, «тоже белорусы», настроеныя абмежаваць ужыванне беларускае мовы у... беларускім войску рамкамі салдацкае курылкі. Сюды ж далучаюцца і прафесары ад рускае філалогіі ў Белдзяржуніверсітэце — праціўнікі беларусізацыі навучання студэнтаў разам з калегамі-філосафамі, у каго адзін толькі выраз «беларуская філасофія» выклікае зняважальны смех і абвінавачанне ў нацыяналізме. І, вядома, рознакаліберная плойма чыноўнікаў-ветэранаў, «единонеделимщиков» разнае масці, што дзесьці ў Віцебску, Гомлі, а фактычна па ўсім беларускім абшары мітынгуюць пад учарашнімі сярпаста-малаткастымі сцягамі, дамагаюцца ўчарашняга дня, учарашняга імперска-асімілятарскага ладу на Беларусі.

Навогул жа маем дачыненне з лічнаю, больш-менш аднастайнаю грамадскаю праслойкаю, мянуемаю звычайна, паводле фармальных крытэрыяў, інтэлігенцыяй, якую, аднак, з прычыны яе нацыянальнае хімерычнасці нам прыйшлося ў свой час назваць «кадрами с высшим образованием Северо-западной части СССР» (Каўка А. Письмо русскому другу. Скарыніч, вып. 1. Мн., 1991, стар. 155) і салжаніцынаўскае лапідарнае «образованцы», да якой здаецца ці не самым адэкватным.

Але хоць СССР нырнуў у Лету, кадры ягоныя засталіся. Праўда, яны ўжо не «решают все», але рашаюць і вырашаюць яшчэ вельмі і вельмі многае, абсядаючы пакуль мала на ўсе ўладныя структуры на Беларусі і тужачыся сваё ўласнае беларускамоўнае гістарычнае невуцтва і самаадмаўленне выдаваць як нешта агульнанароднае — «народ не поймет», «народ не желает», «народ против» (беларускае мовы). Не турбуючы сябе нават элементарным пытаннем, чаму ж гэта той самы народ пасля зацяжной, не без мардабойства, асімілятарскае практыкі ўсё ж працягвае, у абсалютнай большасці, называць сваёй роднай мовай беларускую, нават і тады, калі ад паўсядзённага паслугоўвання ёю ўжо адвучаны?

Засталіся «кадры», застаецца покі што і вытвараная імі на Беларусі монакультура «западно-руссизма» з ейнымі «беларускамоўнымі рэзервацыямі» ў кнігарнях, школах, універсітэтах, сродках масавай інфармацыі, з «каўпаком абецэдаршчыны» або залескаўшчыны над вывучэннем гісторыі Бацькаўшчыны і г. д. і да т. п. Культура з яе, бадай што, адзіным культам пагарды, ушчамлення й паніжэння культуры нацыянальнай, беларускай. Не думаю, каб гэткая цывілізатарская пыха мясцовых «прогрессистов» мела штосьці супольнае з чалавекалюбнаю, сусветна спагадліваю прыродаю ўласна рускай культуры, прадстаўніцтва якой на Беларусі хацелі б замацаваць за сабой нашы дамарослыя образованцы.

Варта, аднак, мець на ўвазе вытокі, духоўную прарадзіму гэтае «ісцінаінтэлігенцкай», мікітазноскаўскае партыі, каб лішні раз не памыліцца наконт яе фактычнага прызначэння. Таму дадамо да ўсяго ўжо сказанага яшчэ адно сведчанне — надта ж, на нашу думку, і паказальнае, і павучальнае ў нашых развагах над праблемай «западно-руссизма». Вось яно:

«Мы хотим сказать, что если под обрусением Северо-западного края разуметь совершенное уподобление его великорусскому типу, то такое требование только усложнит, умудрит задачу, подвергнет ревнителей обрусения неминуемому разочарованию, а через это и охлаждение к раю, возбудит охлаждение в местных жителях и поссорит их с туземцами, что отчасти уже и было. Мы, впрочем, с своей стороны **нисколько не дорожим** сбережением этих местных особенностей и **нисколько не осуждаем** тех приезжих русских, которым все эти особенности не сочувственны. Мало того, пусть они сохраняют и выражают со всей искренностью свое внутреннее убеждение в **превосходстве** великорусского обычая и закала. Пусть уподобление совершится, если возможно, во многом мирным влиянием великорусской народной стихии,— как мы видим это и в малороссийских губерниях, уступающих каждый день неумышленной пропаганде владимирских офеней и московских купцов». І — галоўная, стратэгічная рэкамендацыя для здзяйснення задуманага: «воспитание **туземной** общественной силы — создание **«интеллигентского»** класса из местных элементов» (Аксаков И. С. Задачи России в Северо-западном крае. Соч., т. 3. М., 1886, стар. 503—504, 506).

Што ж, нельга не прызнаць вынаходлівасці за вядомым рускім славянафілам, духоўным пратэжэ беларускіх «западно-руссов». Трыумф «великорусского закала» на Беларусі такі адбыўся, хай сабе не адно мірным шляхам. Паспяхова здзейснена і ўзгадаванне «туземной общественной силы», мясцовых «офеней», інтэлігентнасць якіх аўтар цытаваных радкоў не без рацыі пазначаў двукоссем.

Але трыумфальнае шэсце «западно-руссизма» па беларускай зямлі, душэнне беларушчыны беларускімі рукамі (класічны метад усялякага каланіялізму) няўжо не мае свае мяжы? Сёння на пастаўленае пытанне можна адказаць станоўча: мяжа такі ўвідочнілася. Гістарычная асуджанасць «западно-руссизма» прадвызначылася, чым у многім тлумачыцца і ўзмацненне апошнім часам яго ваяўнічае распаношанасці. Толькі гэта ўжо распаношанасць асуджэнцаў, здольных яшчэ папсаваць беларускае крыві, але не здольных ухіліцца ад канчатковага прыгавору над імі суда Беларускае гісторыі.

Распалася нарэшце сістэма, што спарадзіла й наталяла трупны вірус асімілятарства ў беларускім нацыянальным арганізме. Адраджэнне Беларускае Дзяржавы стварае рэальны грунт дзеля вырашэння драматычнае дылемы беларусаў: тэрыторыя ці нацыя, гаспадары ў сваёй хаце ці рабалепныя еўнухі чужацкіх прыхамацяў, свабодныя творцы Культуры ці паддоследныя ахвяры культур трэгерскіх эксперыментаў «усходніх» і «заходніх» (другая, «польска-крэсавая» разнастайнасць нашага духоўнага калецтва тут не закранаЛася) місіянераў і іхняе дамарослае кліентуры. Станоўчае вырашэнне згаданае дылемы аб'ектыўна неўнікнёнае, колькі б ні зацягваўся пераход Беларускае Краіны ад суверэнітэту дэкларатыўнага да суверэнітэту фактычнага, дзейснага, пры якім далейшае абкрадванне й глумленне з беларускае душы стане вельмі праблематычным.

У святле ўсяго сказанага і «западно-руссизм» паўстае праблемай не гэтулькі акадэмічнай, колькі і перадусім справай палітычнай, і вырашэнне яе знаходзіцца ў абсягу Беларускае Палітыкі, Беларускіх Палітыкаў, дэфіцыт якіх на Беларусі сягоння адчуваецца ці не вастрэй ад мноства іншых нястач нашага крызіснага часу.

І тым не менш, белавусы, сінявокі чалавек, праз сталецці змушоны саромецца й асцерагацца свае беларускасці, пачынае патроху праціраць свае, імперскай лухтой зацярушаныя вочы. Пэўне ж, зачне ён урэшце жыць і дзейнічаць па-беларуску. Знайшоўшы ў сваім беларускім выбары сэнс і асалоду жыцця.

**Аляксей КАЎКА,**
**доктар філалагічных навук.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 50.**



**Троіцкі касцёл у вёсцы Гіры Астравецкага раёна. Помнік архітэктуры неаготыкі, пабудаваны ў 1903 годзе.**

**Фота Я. ПЯСЕЦКАГА.**

## ДНІ ПОЛЬСКАГА ФІЛЬМА

З поспехам прайшлі ў сталіцы Рэспублікі Беларусь Дні польскага фільма. Мінчане з цікавасцю пазнаёміліся з сямю кінафільмамі польскіх кінематаграфістаў — «Крол» (рэжысёр В. Пасікоўскі), «Мастацтва кахання» (рэжысёр Я. Бромскі). «Ля ракі, якой няма» (рэжысёр А. Баранскі), «Яшчэ толькі гэты лес» (рэжысёр Я. Ламніцкі), «Кухня польска» (рэжысёр Я. Бромскі), «Каханак маёй мамы» (рэжысёр Р. Півавар-скі) і «ВІП. Асабліва важная персона» (рэжысёр Ю. Махульскі), якія дэманстраваліся ў кінатэатры «Мір».

**Пётр ГАРДЗІЕНКА.**

## КАЛОЖА Ў НЕБЯСПЕЦЫ

Аб'яўлена аб стварэнні грамадскага фонду па выратаванню Барысаглебскай (Каложскай) царквы ў Гродне.

Першы ўзнос у суме 100 тысяч рублёў зрабіў на спецыяльны рахунак мясцовы гарвыканком.

Пабудаванаму яшчэ ў XII стагоддзі на высокім правым беразе Нёмана храму — аднаму з самых старажытных у Беларусі помнікаў архітэктуры і гісторыі рэлігіі — пагражае разбурэнне. Прычына — апоўзневыя працэсы, якія асабліва актывізаваліся ў апошні час. Пасля стараннага абследавання спецыялісты павінны прыняць рашэнне ўмацаваць грунт вакол храма або перамясціць яго ў бяспечнае месца. З улікам іх думкі і будзе падрыхтаваны праект выратавання царквы.

**70 гадоў назад выйшаў першы нумар літаратурна-мастацкага і грамадска-палітычнага часопіса «Полымя». Гэту назву ён атрымаў ад сваіх стваральнікаў — Янкі Купалы, Якуба Коласа, Цішкі Гартнага. Шлях «Полымя» — гэта шматпакутны, слаўны і трагічны шлях беларускай літаратуры, які прайшла яна за апошнія сем дзесяцігоддзяў. Часопіс таксама заўсёды знаёміў свайго чытача з лепшым, што з'яўлялася ў іншых літаратурах. Асабліва адказная задача перад «Полымем» сёння, у час адраджэння роднай мовы, культуры, гісторыі.**

**У сувязі з маючым адбыцца юбілеем на пытанні карэспандэнта «Голасу Радзімы» адказвае галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Сяргей ЗАКОННІКАЎ.**

# ЦЕПЛІЦЦА ІДЭЯ АДРАДЖЭННЯ

## *ЧАСОПІСУ ПОЛЫМЯ — 70 ГАДОЎ*

**— Сяргей Іванавіч, якія перыяды ў гісторыі «Полымя» вы лічыце найбольш плённымі і адметнымі?**

— Я думаю, іх было два. Перыяд першай беларусізацыі, які працягваўся, бадай, ад часу стварэння часопіса амаль да канца 20-х гадоў, і наша сённяшняе адраджэнне. Хаця паміж імі і шмат адметнага.

Пачатак 20-х гадоў быў надзвычай складаным для Беларусі, якая толькі што выйшла з войнаў, рэвалюцыйнага пераварота, нямецкай і белапольскай акупацыі. Рыжскім дагаворам, які распаласаваў Беларусь на дзве часткі, народу была нанесена страшэнная абраза. І ўсё ж на тым астраўку, які быў нам пакінуты, пачало адраджацца культурнае жыццё.

Я думаю, адраджэнне тады ішло больш лёгка і натуральна, таму што яшчэ не была вынішчана вёска. Там жылі мова, традыцыі. З вёскі выходзілі асноўныя сілы творчай інтэлігенцыі. Нягледзячы на разруху, у дзяржавы знаходзіліся сродкі для беларускіх школ, а таксама для рускіх, польскіх, яўрэйскіх. Знайшлі сродкі і для таго, каб адкрыць універсітэт. І кадры знайшліся. У той беларусізацыі прымалі ўдзел рускія вучоныя, іх уклад быў арганічным, яны ведалі беларускую мову, пісалі на ёй. Адным словам, сама атмасфера была больш творчай, людзі мелі ўпэўненасць, што нацыя дойдзе да свайго развіцця. У такой атмасферы выйшаў першы нумар часопіса «Полымя», у якім з вершамі, апавяданнямі, літаратурна - крытычнымі, публіцыстычнымі артыкуламі і рэцэнзіямі выступалі Цішка Гартны, Міхась Чарот, Змітрок Бядуля, Міхайла Грамыка, Усевалад Ігнатоўскі, Аркадзь Смоліч...

А сёння, што б мы ні сцвярджалі, няма ў нас дакладнай нацыянальнай палітыкі. Прамежак у 65 гадоў добра даўся нам у знакі. Выраслі цэлыя пакаленні беларусаў, адлучаныя ад роднай мовы, ад сваёй культуры. Здаецца, сёння з'явіліся нейкія новыя магчымасці, урад фінансуе беларускамоўныя выданні, але гэта жабрачы паёк. Да таго ж мы, як, напэўна, і ваша газета, і іншыя беларускамоўныя выданні, адчуваем сабатаж. Наш часопіс напярэдадні падпіскі чамусьці аказаўся не ўключаным у каталог СНД, былі непаразуменні з цаной. З-за гэтага мы страцілі сваіх падпісчыкаў за мяжой і ў Беларусі. Хаця ўвогуле, нягледзячы ні на што, магу з гордасцю канстатаваць, што падпіска на часопіс на наступны год не зменшылася.

**— У чым з самага пачатку і на ўсе наступныя гады заключалася галоўная задача «Полымя»? Ці выканаў яе часопіс?**

— Думаю, што выканаў. Заслугай часопіса можна лічыць тое, што ў самыя змрочныя гады сталіншчыны на яго старонках цеплілася ідэя нацыянальнага адраджэння. Паміж траскучых палітычных фраз і вершаў прарывалася жывое слова сапраўдных пісьменнікаў. Часопіс, калі разглядаць увесь яго шлях, друкаваў не толькі лепшыя творы беларускай літаратуры, а быў летапісцам рэспублікі.

**— У першым нумары Цішка Гартны аб'явіў «Полымя» марксісцкім часопісам. Доўгія гады часопіс не меў магчымасці ўхіліцца ад гэтага накірунку. А сёння «Полымя» падтрымлівае які-небудь рух ці партыю?**

— Нягледзячы на дэкларацыю, з якой выступіў Цішка Гартны ў першым нумары, часопіс ніколі не меў таго артадаксальнага бальшавіцкага накірунку, якога не ўдавалася пазбегнуць іншым выданням. Само жыццё, творчасць сапраўдных беларускіх мастакоў слова не маглі быць уціснуты ў рамкі ідэалагічнага манапалізму.

Калі гаварыць пра сённяшні дзень, часопіс тым больш не павінен схіляцца ў нейкі адзін бок. Стала модным сцвярджаць і бедаваць, што страчаны ідэйныя арыенціры і мы брыдзем без мэты. А я лічу, што такія арыенціры ёсць: гэта ідэя беларускай дзяржаўнасці. Калі беларусы, рускія, украінцы, яўрэі, палякі — усе, хто жыве ў Беларусі, пабудуюць такую дзяржаву, у якой будуць жыць заможныя, духоўна багатыя людзі, гэта і будзе ажыццяўленнем ідэі, дзеля якой варта працаваць.

**— Што змянілася ў часопісе за апошнія гады? У чым яго асаблівасці і адрозненні, дзеля чаго і дзеля каго ён выдаецца?**

— «Полымя» — часопіс па-свойму унікальны. Нават дзеля тыражу мы не гонімся за сенсацыйнай легкаважнасцю. Нашы аўтары — людзі высокаадукаваныя, якія дасканала ведаюць прадмет сваёй гаворкі. Здараецца, што і супрацоўнікам яшчэ даводзіцца працаваць з аўтарамі, каб ад матэрыялу была найбольшая аддача, каб іх можна было выкарыстаць настаўніку ў школе або выкладчыку ў ВНУ. Падручнікі, што сёння маем па беларускай літаратуры і гісторыі, недасканалыя, і мы стараемся даць дадатковы матэрыял пра маладомыя падзеі, асобы. У рубрыцы «Вяртанне» друкуем жыццяпіс людзей, якія былі рэпрэсіраваны. Пад рубрыкай «З літаратурнай спадчыны» з'яўляюцца творы не толькі гэтага стагоддзя, але і IX, і XVII, і іншых, якія яшчэ нідзе не друкаваліся.

Наш часопіс самы аб'ёмны ў Беларусі, і таму мы маем магчымасць друкаваць вялікія творы. Са старонак «Полымя» да чытача ўпершыню прыйшлі творы Лынькова, Мележа, Брыля, Быкава, Шамякіна, паэмы і вершы Броўкі, Танка, Куляшова, Панчанкі, п'есы Крапівы і Макаёнка. Многія сучасныя беларускія літаратары таксама пачыналі з «Полымя».

На старонках часопіса заўсёды шырока прадстаўлены пераклады, бо гэта надзвычай важна — абменьвацца культурнымі здабыткамі. Пры дапамозе літаратуры ажыццяўляецца сапраўдны, а не ўяўны інтэрнацыяналізм.

**— Што цікавае знойдуць чытачы ў першых кніжках «Полымя» ў 1993 годзе?**

— Мяркуем, што унікальным будзе другі, лютаўскі нумар, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Максіма Гарэцкага. Упершыню дойдуць да чытача творы пісьменніка «Скарбы жыцця», «Лявоніус Задумекус», дзённік «Кіпарысы», «Ашуканы палітработнік». З «Камароўскіх хронік» Гарэцкага цэнзурай некалі былі выкінуты кавалкі, зроблены купюры, мы мяркуем апублікаваць самі купюры.

Наш няпэўны, расхрыстаны час мала спрыяе творчасці, пісьменнікам працуецца вельмі няпроста. Тым большая для нас радасць, што першы нумар «Полымя» адкрываем новай аповесцю Васіля Быкава «Сцюжа». Твор быццам бы ў прывычным ключы пісьменніка, аднак ёсць у Быкава «ізюмінка». У плане асэнсавання нашай гісторыі, беларускага характару, пакутніцкай долі нашага народа сказана новае слова.

**— Дзякуем, Сяргей Іванавіч, за інтэрв'ю. Віншуем «Полымя» з юбілеем і жадаем новых адкрыццяў, новых таленавітых імёнаў на старонках часопіса.**

**Гутарыла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

можна раскрываць па-свойму, з розных бакоў, жартам і ўсур'ёз, што і было прадэманстравана.

Гомельскі абласны драматычны тэатр прадстаўляў купалаўскую «Паўлінку». Гэты спектакль прымаўся асабліва цёпла і эмацыянальна. І прычына не толькі ў тым, што ігралі землякі. Артыстам яўна было мала сцэны, яны ператварылі ў гэтакую і глядзельную залу, захлісталі прысутных хвалямі песень і музыкі. Добра гэта ці не зусім?.. Відаць, артыстам трэба памятаць, што пачуццё меры ніколі і нікому не перашкаджае (гэта датычыцца не толькі формы падачы п'есы, але і інтэрпрэтацыі асобных вобразаў). Увогуле, «Паўлінка» — твор намнога больш сур'ёзны і праблемны, чым яго прадстаўленне гомельскім тэатрам.

Занадта смеху і жартаў і ў «Залётах» Віцебскага акадэмічнага тэатра, пастаўленых па матывах твораў В. Дуніна-Марцінкевіча. Але ж дзве дзеі гэтай «смяхотнай штукі», якая па перыпетыях сюжэта вельмі нагадвае «Паўлінку» (тут таксама — матыў сватаўства), запоўнены надзвычай высокай прафесійнай ігрой акцёраў. Яны прадстаўлялі тых жа парабкаў, шляхціцаў і сялян, што і гомельскія артысты, але іх героі «жылі» на сцэне больш натуральна, былі непадобныя адзін на аднаго і, самае галоўнае, менш крыўляліся, не францілі экстравагантнымі нумарамі, якімі асабліва была «перапоўнена» пастаноўка «Смешныя і грэшныя людцы мае...» у выкананні артыстаў Магілёўскага драматычнага тэатра.

Дарэчы, гэтая п'еса, шчыра кажучы, расчаравала. «Жарты ў стылі вясковай эротыкі» (такі яна мае падзагаловак) часам даходзілі да звычайнага... фізіялагізму, які нічога не мае агульнага са сцэнічным мастацтвам. Гэтая пастаноўка зроблена як быццам па матывах твораў Я. Купалы і Л. Родзевіча. Але ж цяжка было ўцяміць не тое, што купалаўскую, але і рэжысёрскую ідэю. Адзіная амаль толькі сцэна, з якой пачынаўся спектакль (абрад паклянення прашчурам-дзядам), мела і культурна-выхаваўчае, і пазнавальнае, і нават патрыятычнае значэнне, а за астатнія сцэны было проста сорамна, тым больш, што ў зале было шмат дзяцей.

Неспадзявана прыемнае і самабытнае ўражанне пакінуў спектакль «Дзіця з Віфлеема» ў пастаноўцы тэатра-студыі кінаакцёра кінастудыі «Беларусьфільм» (рэжысёр Мікалай Пінігін). Спектакль цікавы не столькі сваімі евангельскімі матывамі, інтэрпрэтацыя якіх, дарэчы, мае глыбокі філасофскі, маральны падтэкст, колькі ўваскрэшаннем забытай формы народнага тэатра — батлейкі. «Дзіця з Віфлеема» мае падзагаловак: спектакль паводле Новага Запавету батлеечнага прадстаўлення былога Віцебскага павета, а таксама народных беларускіх песень. Вядомая актрыса тэатра і кіно Таццяна Мархель шчодра адорвае гледачоў народнымі частушкамі і прыпеўкамі, а ўмелае выкарыстанне іншымі акцёрамі рэдкіх народных інструментаў робіць гэтую пастаноўку глыбока беларускай па форме. А гэта вельмі істотная рэч, бо на фоне п'есы «Дзіця з Віфлеема» беларускасць народных твораў у выкананні тых жа віцебскага, магілёўскага тэатраў, аформленая з дапамогай сучасных гукавых сродкаў і рытмаў, відавочна, паблякла.

Аб спектаклі «Галава» тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі «Вольная сцэна» сказаць нешта канкрэтнае цяжка, бо гледачы дружна... не зразумелі гэтую пастаноўку Валерыя Мазынскага па п'есе абсурду Ігара Сідарука. Відаць, рэжысёру неабходна памятаць адну простую рэч: самыя арыгінальныя ідэі, калі яны ўспрымаюцца толькі адным чалавекам (менавіта пастаноўшчыкам), трацяць усялякі сэнс.

Кульмінацыяй драматургічнага свята стала гістарычная драма І. Чыгрынава «Звон — не малітва» ў выкананні купалаўцаў, пасля завяршэння якой адбылося ўрачыстае ўручэнне прыза года «Хрустальная Паўлінка» знакамітай актрысе тэатра імя Янкі Купалы Стафаніі Станюце.

«Звон — не малітва» па свайму зместу цалкам накіраваны ў далёкую мінуўшчыну, у часы Полацкага княства, у X стагоддзе. Але гэта не перашкаджае купалаўцам данесці да гледача, а гледачам усвядоміць сучасны падтэкст гістарычнай драмы. Перадом эпох, змена паганства хрысціянствам, крушэнне адных і ўзыходжанне зусім іншых ідэй і ідэалаў. А як вынік — сутыкненне розных светаўспрыманняў, процілеглых філасофій жыцця, трагічныя лёсы людзей, заняпад надзей і спадзяванняў адных і перамога іншых, прычым, не толькі вялікіх асоб (князі), але і простых смяротных.

Завяршаецца драма поўным трагізму маналогам княгіні Рагнеды, якая ўсклікае: «Можна прымусіць змяніць веру аднаго чалавека, цэлы ж народ — не!..» Як разумець гэтыя словы? Будзе лепей, каб кожны іх разумеў па-свойму. А наступныя словы княгіні («лёгка мяняе веру той, хто не здольны верыць, а можа толькі хлусіць») накіраваны якраз у наш дзень.

Пры далейшай рабоце над драмай купалаўцам варта было б зрабіць невялікую стылізацыю мовы герояў у адпаведнасці з той эпохай, якая ўваскрашаецца на сцэне, бо ўжо занадта сучасна гавораць і князь Ізяслаў, і вядун Холад, і праваслаўны прэсвітэр Апанасій... Увядзенне невялікай колькасці архаізмаў у іх мову, у асобныя фразы не пашкодзіць, а толькі «адцяніць» пераемнасць стагоддзяў.

Завяршаўся фестываль беларускай драматургіі спектаклем гасцей з Чарнігава — «Ноч на паланіне» паводле драматычнай паэмы А. Алеся. Трагічная і прыгожая феерыя-казка не пакінула абыякавымі шматлікіх гледачоў, якія ўслед за драматургам і рэжысёрам (І. Шнейдэрман) пераканаліся ў тым, што няма і не можа быць шчасця, здабытага за кошт каго-небудзь іншага. Думаецца, што гэта быў найбольш лірычны спектакль фестывалю. Дарэчы, украінская мова ўспрымалася гледачамі натуральна, і сам факт запрашэння ў агладзе Чарнігаўскага ўкраінскага музычна-драматычнага тэатра знамянальны: ён пераканаўча сведчыць аб тым, што наступныя фестывалі драматургіі павінны быць адкрытымі для гасцей і сяброў, прынамсі, з бліжняга зарубежжа.

Нарэшце, нельга не сказаць, што пастаноўка вельмі любімай дзецьмі казкі Карнея Чукоўскага «Муха-Цакатуха» дзіцячым тэатрам-студыяй «Сінтэз» Палаца культуры вытворчага аб'яднання «Гомельдрэў», якая таксама была ўключана ў праграму фестывалю, з'явілася цудоўным упрыгажэннем свята. Трэба было бачыць шчырасць, непасрэднасць дзяцей-акцёраў, бо пяром апісаць гэта немагчыма. Адзін з гледачоў-дарослых, пакідаючы залу, заўважыў: «Гэты спектакль заслугоўвае самай захопленай рэцэнзіі». Лепш не скажаш.

**Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

# БАГДАНОВІЧ ПА-ЛАТЫШСКУ

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» сумесна з рыжскім выдавецтвам «Rakstnieks» («Пісьменнік») падарыла сёлета чытачам прыемную неспадзяванку — кнігу М. Багдановіча «Цвяток радзімы васілька...» па-латышску і па-беларуску.

Укладальнікамі зборніка нашага класіка сталі Віктар Ліўземніек і Рыгор Барадулін. Пераклад на латышскую мову вершаў Максіма ажыццявілі Андрыс Веян і Віктар Ліўземніек — даўнія і шчырыя сябры беларускага мастацкага слова. Яны родам з Латгаліі, з беларуска-латышскага сумежжа, з таго цудоўнага азёрна-песеннага краю, дзе і па сёння суіснуюць дзве мовы — балцкая і славянская.

Сам жа Максім у брацкай краіне не чужынец. Латышскі вучоны Петэрыс Зэйле аднаго разу мне паведаміў: «Вянок» М. Багдановіча знаходзіцца ў бібліятэцы Райніса: ён любіў яго і зрабіў некалькі паметак на бачынах кнігі».

Ды перакласці вершы так і не паспеў. Але вершы М. Багдановіча ўсё ж друкаваліся ў Рызе. К. Езавітаў змяшчаў знойдзеныя творы класіка на старонках часопіса «Новы шлях», які ў час апошняй вайны рыхтаваўся ў Мінску, а друкаваўся ў Рызе. Тады ж вершы М. Багдановіча былі перакладзены ў Рызе на нямецкую мову Ойгенам Энгельгардам.

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

## ЛІСТКІ З КАЛЕНДАРА




**2 снежня, серада**

### ВОЛЬНЫ АНАТОЛЬ

нарадзіўся ў сям'і служачага на станцыі Пухавічы. У 1920 годзе знаходзіўся ў Чырвонай Арміі, працаваў у ЦК ЛКСМБ, вучыўся ў БДУ. Друкавацца пачаў у 1922 годзе. Адзін з заснавальнікаў літаратурнага аб'яднання «Маладняк».

Творчыя інтарэсы яго былі надзвычай разнастайныя. Спрабаваў свае сілы ў паэзіі, прозе, драматургіі. А. Вольны — аўтар паэтычных зборнікаў «Камсамольская нота» (1924, з А. Александровічам), «Чарнакудрая радасць» (1926), «Табе» (1927). Яго паэзія, паводле слоў даследчыцы І. Багдановіч, вызначаецца «імпульсіўнасцю, эмацыянальнай парывістасцю рытмаў, жаданнем адысці ад усталяваных вершаваных форм».

А. Вольны стаяў ля вытокаў прыгодніцкага жанру ў беларускай прозе, нараджэнне якога адзначана цікавымі пошукамі пісьменнікаў-маладнякоўцаў. Ён з'яўляецца сааўтарам рамана «Ваўчаняты» (1925, з А. Александровічам і А. Дударом). У прыгодніцкай аповесці «Два» (1925), прысвечанай вызваленчай барацьбе беларусаў супраць польскіх акупантаў, А. Вольны стварыў рамантычны вобраз народнага заступніка. Гераічная тэма ў творчасці пісьменніка знайшла свой працяг у аповесці «Антон Савіцкі» (1927).

Пад псеўданімам «Алёша» друкаваў гумарэскі, фельетоны (зборнік «Суседзі, 1932). Пісаў п'есы, драматызаваныя агіткарты («Калі дзяк гаворыць праўду», «У агранома», «Міколка», 1924).

А. Вольнаму належыць важная роля ў развіцці і станаўленні беларускага кінамастацтва. Ён аўтар сцэнарыяў фільмаў «Хвоі гамоняць», «Атэль «Савой», «У агні народжаныя», «Сонечны паход», «Новая радзіма». У 1935 годзе А. Вольны ўдастоены звання заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

У 1936 годзе пісьменнік быў незаконна арыштаваны. Яго жыццёвы і творчы шлях трагічна абарваўся 29 кастрычніка 1937 года. Рэабілітаваны ў 1957 годзе.

Т. ДАСАЕВА.

**25 снежня, пятніца**

*ПОМНІКІ АРХІТЭКТУРЫ БЕЛАРУСІ*

### НАВАГРУДСКІ ФАРНЫ КАСЦЁЛ

Першы касцёл у Навагрудку быў заснаваны яшчэ ў 1395 годзе вялікім князем літоўскім Вітаўтам і ўзведзены з цэглы ў стылі готыкі. У ім вянчаўся кароль Ягайла з князёўнай Соф'яй Гальшанскай, аб чым сведчыць мемарыяльная дошка на сцяне старажытнай алтарнай апсіды храма, якая захавалася да нашага часу. На мяжы XVII—XVIII стагоддзяў касцёл быў адбудаваны нанава, пры гэтым дзве гатычныя гранёныя апсіды ўвайшлі ў новы храм як бакавыя капліцы. Пабудаваны ў час росквіту маляўнічага стылю барока, новы касцёл захаваў па-ранейшаму суровы сярэдневяковы характар з манументальнымі сценамі і стрыманым дэкорам фасадаў. З вонкавым абліччам кантрасце светлы ўрачысты інтэр'ер, перакрыты высокім скляпеннем. У Навагрудскім фарным касцёле быў хрышчаны вялікі паэт Адам Міцкевіч.

Т. ГАБРУСЬ.

## ДЗІКІЯ ФАНТАЗІІ

Тры хлапчукі, старэйшаму з якіх споўнілася 11 гадоў, зайшлі вечарам на ферму калгаса «18 партз'езд» у Талачынскім раёне і пачалі па чарзе падпальваць поўсць цялушкам. Затым дайшла чарга да каня, якога малалетнія вылюдкі чуць не закатавалі да смерці. Камісія па справах непаўналетніх, якая створана пры райвыканкоме, як звычайна, вынесла гуманнае пакаранне іх бацькам — аштрафавала кожнага на 200 рублёў. Такія лагодныя меры ўздзеяння, вядома ж, не спрыяюць зніжэнню правапарушэнняў непаўналетніх у раёне, робіць выснову «Звязда», якая паведаміла пра гэта злачынства. Сярод іх пераважаюць крадзяжы дзяржаўнай і ўласнай маёмасці, угон аўтатранспарту, грабеж.

## ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ



СМАЛОНСКАЯ Ганна Ільінічна, што жыве ў вёсцы Сычэвічы Маладзечанскага раёна, шукае родную сястру ЛЯСНІЧУЮ Антаніну Ільінічну 1924 года нараджэння. У 1941 годзе Антаніну Ільінічну фашысты вывезлі ў Германію. Там яна выйшла замуж, нарадзіла пецярых сыноў. Пасля вайны сёстры перапісваліся, аднак потым сувязь перапынілася.

Усіх, хто што-небудзь ведае пра А. ЛЯСНІЧУЮ і яе сям'ю, просім пісаць на адрас:

Беларусь, 222333,
Мінская вобласць, Маладзечанскі раён,
п/а Гранічы, в. Сычэвічы.
СМАЛОНСКАЙ Г. І.

НА ЗДЫМКУ: сям'я Антаніны ЛЯСНІЧАЙ.

## СПОРТ

### АБВЯРЖЭННЕ ЧУТАК

Не зусім удалае выступленне на зімняй Алімпіядзе шматразовага чэмпіёна свету канькабежца з Мінска Ігара Жалязоўскага дало падставу песімістам лічыць, што «зорны» час беларускага спартсмена прайшоў, што гады бяруць сваё.

А ён сёлета ўжо ў першых стартах абвергнуў прагнозы скептыкаў: выступаючы ў Японіі на розыгрышы Кубка свету, спачатку перамог на дыстанцыі тысяча метраў, пасля выдатна выступіў і на «пяцісотцы». Цяпер Ігар Жалязоўскі ўзначальвае спіс лепшых канькабежцаў, якія вядуць барацьбу за ганаровы трафей.

### ГРАД ЗОЛАТА І... ЛЫЖКА ДЗЁГЦЮ

Такога поспеху беларускіх спартсменаў не чакаў ніхто: на першынстве свету па самба, якое завяршылася ў Мінску, яны заваявалі шаснаццаць залатых, два сярэбраныя і дзевяць бронзавых медалёў. Мужчыны занялі першае, а жанчыны другое месца.

Т. Масквіна, І. Казанцава, С. Валнова, В. Казлоўская, Я. Далінін, В. Даніла/ў...—проста няма магчымасці пералічыць усіх нашых чэмпіёнаў.

Але ёсць тут і малапрыемны нюанс гэтых спаборніцтваў. Нядаўна мы былі сведкамі дрэннай арганізацыі адборачнага турніру першынства свету па хакею, калі замежных спартсмены сутыкнуліся з праблемай размяшчэння, трэніровак, харчавання ў сталіцы Беларусі.

На жаль, гэтыя праблемы засталіся і цяпер. Да чаго, скажам, «пранырлівыя» журналісты, але і яны не маглі адразу пасля фінальных сутычак даведацца імя пераможцаў, з якой яны каманды, не было адкуль аператыўна перадаць інфармацыю ў газету і да т. п. Куды ж падзелася наша традыцыйная гасціннасць?..

### БЕЗАГАВОРАЧНАЕ ЛІДЭРСТВА

Звярніце ўвагу на наступныя лічбы: 20 і 9. Першая—колькасць ачкоў, якія набралі гандбалісты мінскага СКА ў спаборніцтвах каманд Балтыйскай лігі. Другая — колькасць ачкоў, заваяваных тут літоўскім «Гранітасам», што ідзе ўслед за лідэрам. Каментарыі, як кажуць, не патрэбны. Безумоўна мінчане мацнейшыя за ўсе каманды ў гэтым турніры. Ды і другі маладзёжны састаў беларускай каманды, якая ўступае толькі адно ачко літоўцам, таксама радуе. Згуляна ў спаборніцтвах палова тураў.

Больш грознае выпрабаванне чакае галоўную каманду Беларусі ў бліжэйшы час. Стаў вядомы сапернік мінчан у адной чацвёртай фіналу Кубка ІГФ —германскі клуб «Баер».

### РБ — ЧАСОВЫ ЧЛЕН УЕФА

30 лістапада ў Стамбуле на пасяджэнні выканкома УЕФА Федэрацыя футбола Беларусі атрымала статус часовага члена Еўрапейскага саюза футбольных асацыяцый. Як указана ў факсе, што прыйшоў на наступны дзень у Мінск, часовае членства гарантуе ўсе правы пастаянных членаў УЕФА. Думаецца, такое становішча захаваецца да чэрвеня 1993 года, калі пройдзе кангрэс гэтай арганізацыі. Ён адзіны, хто можа прымаць пад сцягі УЕФА новыя федэрацыі ў якасці пастаянных членаў.

Разам з Беларуссю статус часовага члена атрымала федэрацыя футбола Арменіі, а статус асацыяваных членаў—федэрацыі Малдовы і Азербайджана.

### ПЕРАМОЖЦАЎ ДВОЕ

Буйны міжнародны турнір шахматыстаў, прысвечаны 100-годдзю з дня нараджэння Алёхіна, прайшоў у Маскве. На фінішы аднолькавую колькасць ачкоў набралі мінчанін Барыс Гельфанд і Вішванатан Ананд з Індыі.

Адзначым прыгожую перамогу беларускага гросмайстра над экс-чэмпіёнам свету Анатолем Карпавым.

### ПРАБЛІСК НАДЗЕІ

У хакейнай мінскай камандзе «Дынама» адбылася змена трэнера. Замест Уладзіміра Сафонава калектыў узначаліў Андрэй Сідарэнка. Гэта ў нейкай ступені станоўча адбілася на гульні галоўнай каманды нашай рэспублікі, якая пачала набіраць ачкі ў розыгрышы Кубка МХЛ.

Праўда, страчанага не вернеш. На высокае месца тут сёлета разлічваць не даводзіцца.

Затое радуе іншае. У адкрытым чэмпіянаце Расіі ўдзельнічаюць «Нёман» (Гродна) і «Хімік» (Наваполацк), яны ўпэўнена ўзначальваюць турнірную табліцу. А менавіта гэтыя каманды з'яўляюцца пастаўшчыкамі ігракоў у галоўную каманду—«Дынама». Будзем спадзявацца, што праз год-два і наш хакей заявіць пра сябе на ўвесь голас.

Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.
ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках «Голасу Радзімы», не заўсёды супадаюць.

Газета адрукавана ў друкарні «Беларускі Дом друку»
Тыраж 5 500 экз.
Індэкс 63854. Зак. 2260.
Падпісана да друку 14.12.1992.